2 кастрычніка 2020 | № 37 (696)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА

ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







«Справядлівасць будзе!»
Стар. 8

# Якой будзе новая Беларусь? Яна ўжо ёсць!

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Штодня назіраю за падзеямі ў краіне — і не перастаю наноў адкрываць для сябе беларусаў ды захапляцца імі.**

Рэвалюцыя ў Беларусі нараджае сапраўдную магутную нацыю, дзе народ — не тыя беларусы, пра якіх звыкла кажуць: «а можа, так і трэба» ці «мая хата з краю». Аказваецца, сучасныя беларусы — салідарныя, крэатыўныя, смелыя, нястомныя і гераічныя.

Дзякуючы падзеям апошніх месяцаў я даведалася, што мой сусед — таленавіты паэт і музыкант, які адседзеў на Акрэсціна за тое, што выказваў сваю пазіцыю супраць гвалту і дыктатуры.

Што беларускія жанчыны — неймаверна смелыя і шыкоўныя, яны здольныя разбіць дыктатуру сілай любові і прыгажосці.

Што нашы неверагодныя студэнты — не толькі гуляюць і «стаяць у чарзе па дыпломы», а выходзяць адстойваць свой гонар і гонар краіны.

Што ў нас ёсць сапраўдныя Выкладчыкі і Настаўнікі, якія не ідуць на здзелкі з сумленнем, не баяцца аддана бараніць сваіх вучняў і свой гонар.

Нашы навукоўцы не ахвяруюць Ведай на карысць ідэалогіі. Нашы артысты — сапраўды народныя і нацыянальныя не таму, што нехта ўганараваў іх такім званнем, а таму, што ў цяжкую хвіліну яны сталі на бок народа. І спартсмены. І музыкі. І журналісты. І працоўныя. І нават многія сілавікі.

Сваімі вушамі чула ад знаёмай з райцэнтра, што тамтэйшыя міліцыянты цішком ездзяць у Мінск, каб паўдзельнічаць у акцыях пратэсту.

А самі акцыі? Штонядзелю, бачачы, як старанна сілавікі зачышчаюць горад, сэрца трымціць: «Няўжо сёння не дадуць сабрацца? Няўжо пратэст задушаны?». І нейкім цудам па ўсім горадзе ўтвараюцца шматтысячныя калоны, якія не наважваюцца разганяць. І, калі бачыш гэта, разумееш: адкату ўжо не будзе, бо страху больш няма. Мы — гаспадары на гэтай зямлі, і мы будзем жыць у гэтай краіне і развіваць яе.

Так, там-сям рэжым працягвае зацікаць гайкі. За кратамі застаюцца дзясяткі палітвязняў. Ва ўніверсітэтах і на прадпрыемствах уводзяцца драконаўскія правілы ўнутранага распарадку. Але ўсё гэта выглядае настолькі абсурдна, што ўсім зразумела: гэта — агонія, гэта — канец.

Ужываючы масавыя і нахабныя рэпрэсіі, улады пераследавалі простую мэту: напалохаць, адбіць ахвоту выходзіць, спыніць супраціў. Але атрымалася роўна наадварот. Я не сустрэла яшчэ ніводнага чалавека, які перастаў бы выходзіць на пратэсты пасля затрыманняў, судоў і арыштаў. Размаўляючы з людзьмі, якія прайшлі праз гэта, чую адну і тую ж фразу: «Мы ўсё робім правільна, усё не дарма».

Рэжыму варта было б узгадаць пра Трэці закон Ньютана са школьнага курса фізікі: сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння. Дык, можа, трэба ўжо спыніцца і зразумець: настаў час новай Беларусі, дзе гвалту, хлусні і дыктатуры — не месца? Настаў новы час.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**









# Што будзе, калі спыняцца мірныя пратэсты?

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Тым, хто кажа, што іх «задзяўблі мірныя пратэсты па нядзелях, па горадзе не праехаць, у кафэ не схадзіць, дайце людзям жыць і адпачываць», я хачу расказаць, што будзе як толькі па нядзелях спыняцца мірныя пратэсты.**

Адразу ж настане такі час:

— З бальніц і палiклiнiк звольняць самых сумленных і самых таленавітых дактароў, якія ўмеюць лячыць, бо гэтыя дактары выходзяць на пратэсты. Застануцца толькі тыя, хто раве на хворых, фальсіфікуе статыстыку па кавідзе, цягне час у прыёмных пакоях і адмаўляецца лячыць старых, бо ім і так паміраць. Хто будзе лячыць вас, вашых дзяцей і вашых старых, застаецца пад пытаннем.

— Са школ выганяць тых настаўнікаў, якія насуперак усяму працягваюць вучыць дзяцей па-сапраўднаму, а застануцца тыя, хто ставіць «двойкі» за паводзіны, крычыць на дзяцей і ўсе дысцыплінарныя пытанні вырашае пастаноўкай у СОП. Як будуць вучыцца вашыя дзеці і ўнукі — не ведаю.

— Закрыюцца кафэ і рэстараны, бо кагосьці пасадзяць, а большасць проста з'едзе. Застануцца крамы «Родны кут», райпошныя, ну, і пара-тройка піцэрый, канешне. От туды і будзеце хадзіць.

— Ратавальнікі АСВОДу, перш чым кагосьці ратаваць, будуць чакаць дазволу ад міліцыі.

— Па тэлебачанні вы будзеце слухаць толькі пра «глыбінную дзяржаву, надої і дажынкі, канцэрты Саладухі і сясцёр Груздзевых.

— Розныя зручныя сэрвісы і рэсурсы інтэрнэту скончацца самі сабой, бо таленавітыя айцішнікі з'едуць за мяжу, а застануцца тыя толькі, каго з сабой не возьмуць.

У тэатры вы таксама асабліва не паходзіце, бо частка закрыецца, а што застанецца — будзе вам паказваць толькі тое, што ўзгоднiць выканкам.

— Кожнага з вас змогуць забраць проста за тое, што вы (вашы дзеці, браты, бацькі) у нядзелю выйдзеце жыць сваім жыццём і сядзець у кавярнях, бо рэжым будзе баяцца ўсіх, хто збіраецца болей за аднаго і не будзе нават асабліва пытаццa, хто вы і за каго галасавалі. Ён і цяпер не пытаецца.

— А як стануць вас забіраць, то не будзе ўжо ані сумленных адвакатаў, ані валанцёраў, бо адны будуць сядзець, а другія з'едуць.

— І без моладзі застанецеся, бо ўсе ламануцца ў Польшчу і Літву. Гэта хто не будзе сядзець.

То я вам прапаную трохі моўчкі пацярпець. Бо ўсе, хто рабіў вашае жыццё цікавым, утульным і бяспечным, цяпер па нядзелях ходзяць па праспекце. А ў астатнія дні, між іншым, працягваюць рабіць вашае жыццё цікавым, утульным і бяспечным. Лечаць, вучаць, кормяць, поіць і забяспечваюць сеціўным дабрабытам.

# Больш за аднаго не збірацца

Зінаіда ЦІМОШАК

**Складваецца ўражанне, што цэнтр горада для случчан у верасні 2020 года з'яўляецца забароненым месцам.**

Кожны дзень там нясе дзяжурства міліцэйскі патруль. Слуцкі РАУС працуе на апярэджанне пратэставых акцый, таму падчас іх людзей літаральна выганяюць з цэнтра горада. Асабліва ўзрушваюцца міліцыянты ў тыя часы, калі акцыі пратэсту адбываюцца ў Мінску. Яны імкнуцца тут жа выцесніць людзей са сквера, які знаходзіцца насупраць райвыканкама. І не важна, што гэтыя грамадзяне нават нічым не абазначаныя: ні «забароненымі» колерамі ў адзенні, ні балонікамі ці сцягамі.

Сітуацыя даходзіць да абсурду. 27 верасня карэспандэнту НЧ і па сумяшчальніцтве старшыні Слуцкага таварыства беларускай мовы давялося быць сведкай таго, як восем паводзін супрацоўнікаў РАУС.

Так, у 14-20 я праходзіла па дарожцы, якая вядзе праз сквер каля Случы. Каля Цэнтра дзіцячай творчасці быў бачны дзяжурны міліцэйскі аўтамабіль. На адной з лавак сядзелі некалькі жанчын і малады хлопец. Завяла з імі гутарку на беларускай мове. У адказ пачула таксама некалькі беларускіх словаў. Узнікла цікавасць да далейшай размовы, якая так і не паспела развіцца. Бо з'явіліся побач тры міліцыянты, якія запатрабавалі пакінуць сквер. Прыкладна размова ішла так:

— Вы о чем здесь разговариваете?

— А што, нельга размаўляць?

— Нельзя собираться вместе.

— Чаму?

— Потому что объявлены массовые несанкционированные мероприятия.

— Дык у Слуцку ж ніхто не аб'яўляў.

— Все равно нельзя. Нельзя собираться больше одного человека. Если не уйдете, будем составлять административные протоколы па статье 23.34 «Массовое мероприятие».

Пасля гэтых слоў міліцыянт дэманстратыўна дастаў мабільны тэлефон і ўсім сваім выглядам пачаў паказваць рашучасць намеру выканаць адміністрацыйнае затрыманне. Пераглянуўшыся, жанчыны і хлопец пакінулі лаўку. Я таксама сышла з гэтага «ўтульнага месца».

Слуцкі РАУС зможа праінфармаваць сваё абласное начальства, што «ў горадзе ўсё спакойна, усе "экстрэмісты" нават не маюць магчымасці сабрацца разам». Але ці будуць задаволены людзі такімі дзеяннямі праваахоўнікаў?

# «Мяне вывелі ў двор РУУС. Амапаўскі аўтобус ужо разварочваўся»

Алесь АНЦІПЕНКА

**Прыкладна каля 17.00 за нашымі спінамі спыніўся мікрааўтобус. Праз некалькі хвілінаў з яго выскачылі людзі ў камуфляжы, у касках і з дручкамі. Я ўбачыў, як вакол мяне ўсе пачалі разбягацца. Інстынктыўна памкнуўся да металічнай агароджы парку, каб мяне не збілі з ног.**

У гэты момант я атрымаў удары дручком па галаве, спіне і моцным ударам нагі ў шчыкалатку быў паваленны на зямлю. Пры падзенні крыху пашкодзіў кісць левай рукі. Мяне схапілі і зацягнулі ў мікрааўтобус, у якім праз пэўны час аказалася яшчэ тры чалавекі.

На сувязь з камандзірам групы выйшлі па рацыі, і голас запытаўся: «Сколько тел взяли?». У адказ паведамілі: «Три». (Хоць у мікрааўтобусе знаходзілася чатыры чалавекі). Голас начальніка дадаў: «Никого не выпускать и всех отпиз…»

Мне і, здаецца, яшчэ аднаму чалавеку надзелі кайданкі. Прыкладна каля 10–15 хвілінаў мікрааўтобус не крануўся з месца, а потым нас падвезлі да перакрыжавання вуліцаў Першамайская і Пуліхава. Акрамя міліцыянтаў і некаторых затрыманых, якіх міліцыянты вялі, там нікога не было. Мяне зноў ударылі па галаве, перадалі супрацоўнікам міліцыі і тыя павялі да фургону з кратамі, які знаходзіўся за мостам праз Свіслач. Тут груба загадалі пакласці рукі на фургон, ударылі па нагах, абшукалі і заштурхнулі ўнутр.

Са мной разам аказаліся пятнаццацігадовы Руслан, спадар Пражнікаў, Андрэй Новік, Павал Пырнік, Сяргей Музычын і іншыя (9 ці 10 асобаў). Нас прывезлі ў Партызанскае РУУС. Мяне выклікалі асобна і прывялі ў кабінет на другім паверсе будынка РАУС. Прыйшоў нейкі раз'ятраны міліцыянт, які злосна сказаў, што мяне пасадзяць. Потым прыйшоў яшчэ адзін і загадаў весці ўніз. У холе мяне падвялі да зніякавелага бамжа і запыталіся ў яго: «Ён?». Бомж адказаў: «Ён». Дзеля пэўнасці агучылі, што той чалавек мае сівыя і доўгія валасы. Знялі мой берэт — і ўсе ўпэўніліся ў тым, што я, сапраўды, маю доўгія валасы. Мяне зноў павялі на другі паверх.

У кабінеце следчага па крымінальных справах сп. І. Жэбіта (як высветлілася пазней) хутка з'явіліся тры, мяркуючы па ўсім, салдаты тэрміновай службы Белпалка. Яны пачалі складаць рапарт. З іхніх размоваў паміж сабой я зразумеў, што гаворка ідзе пра збіццё капітана міліцыі падчас Маршу і ўзбуджэнне супраць мяне крымінальнай справы.

Я папрасіў усіх прысутных прадставіцца. Зрабіў гэта толькі сп. І. Жэбіт, астатнія адмовіліся. На маіх вачах рапарт быў складзены, падпісаны трыма міліцыянтамі, што адмовіліся прадставіцца, і перададзены Жэбіту.

Жэбіт пачаў допыт і складанне пратаколу. Праз нейкі час, пасля шэрагу зададзеных пытанняў і атрыманых з майго боку адказаў, ён прамовіў, што тут нешта не тое і што па маёй справе ўжо выкліканы следчы пракуратуры Партызанскага раёна.

У асобным кабінеце зрабілі відэаздымкі, зноў адвялі на першы паверх і змясцілі ў камеру часовага ўтрымання. Праз нейкі час я быў выкліканы да следчага пракуратуры. Звалі яго Уладзімір Пятровіч (прозвішча не запомніў). Да майго крайняга здзіўлення, следчы, калі я папрасіў яго занесці ў пратакол усё, што адбывалася са мной у пастарунку, паведаміў, што рапарта няма, і на заканчэнне сустрэчы ён сказаў, што мусяць хутка разабрацца ў маёй справе.

Прыкладна праз паўтары гадзіны, недзе каля 0.30, мяне зноў вывелі з камеры часовага ўтрымання, і камандзір групы спецназу, якая канваіравала нас у размеркавальнік, пачаў складаць новы пратакол. Паводле новага пратаколу, які аказаўся аднолькавым для ўсіх затрыманых, я браў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным шэсці, не падпарадкоўваўся папярэджанням міліцыі і выгукваў нейкія лозунгі. На падставе неадпаведнасці фармулёвак я адмовіўся падпісаць пратакол.

Мяне вывелі ў двор РУУС. Амапаўскі аўтобус ужо разварочваўся на двары. Мяне перадалі амапаўцу, і той літаральна закінуў мяне ў аўтобус, хоць у гэтым, як і ва ўсіх папярэдніх выпадках, не было аніякай патрэбы. Ні ў водным з выпадкаў я не аказваў аніякага фізічнага супраціву прадстаўнікам праваахоўных органаў і не рабіў аніякіх спробаў збегчы.

У аўтобусе, у якім не было святла, я паспрабаваў сесці на вольнае месца. Гэта аказалася недаравальнай памылкай. Я быў схоплены і кінуты на падлогу ў задняй частцы аўтобусу. Аднак упаў я на груду чалавечых целаў. Ніводнае з гэтых целаў не варушылася, і я падумаў, што людзі знаходзяцца ў стане непрытомнасці. Мне было загадана ляжаць тварам уніз.

Амапаўцы загрузіліся ў аўтобус, і мы крануліся з месца. Адразу ж яны выявілі жаданне распачаць «дыялог». Дзеля гэтага кагосьці побач са мной моцна ўдарылі дручком. Пры дапамозе таго ж самага дручка заваявалі да сябе ўвагу і ўсіх затрыманых. Усіх нас паабяцалі змясціць у камеру з гомасексуалістамі і з вялікім задавальненнем апісвалі дэталі таго, што нас чакае. Адзін з амапаўцаў сунуў камусьці ў рот дручок і ашалела крычаў: «Соси, сука».

Знявагі і пагрозы згвалтавання былі выказаны і ў адрас адзінай сярод нас маладой жанчыны, маці траіх дзяцей, Вольгі. Пагрозы, удары дручкамі, зняважлівыя словы чаргаваліся з харканнем на затрыманых.

Урэшце нас прывезлі ў размеркавальнік. Усім загадалі ўстаць, закласці рукі за галаву і не падымаць вачэй. За спробу падняць вочы даставаўся ўдар дручком. Частку затрыманых вывелі ў двор. Я і яшчэ некалькі чалавек засталіся ў аўтобусе. Па сваёй «неасцярожнасці» я абапёрся на стойку ўнутры аўтобуса, за што атрымаў пад дых, а амапавец, які зайшоў звонку, выдзер у мяне пасму валасоў.

Нарэшце вывелі на двор і нас, астатніх. Пры дапамозе ўдараў нагамі мяне паставілі ў належную паставу: рукі абапіраюцца на аўтобус, ногі шырока расстаўленыя і далёка ззаду. Побач збівалі маіх суседзяў. Каманда ранейшая: «Тварам уніз». Пры адной са сцэнаў прысутнічала і высокае начальства: да кагосьці звярталіся «товарищ полковник».

Практыкаванне «ў позе» дасягнула сваёй мэты: нямелі рукі, ногі (да таго ж, я амаль не адчуваў сваёй рукі з пашкоджанай кісцю). Упасці было нельга, і ўсе гэта інтуітыўна адчувалі.

Мяркую, што «выхаваўчая праца і практыкаванні» з намі цягнуліся прыкладна каля дзвюх з паловай — трох гадзінаў, з 1.20 да 4.20 ночы.

Урэшце нас прывялі ў адзін з пакояў размеркавальніка. Пачалася здача асабістых рэчаў і лёгкі «шмон». Пры электрычным святле, пазнаўшы сярод прысутных там амапаўцаў толькі аднаго іхняга камандзіра, які складаў на мяне пратакол, раптам узнікла нечаканая думка: а можа, гэта зусім не тыя людзі, што везлі нас, можа, гэта ўжо нейкія іншыя?

Майму ўражанню не наканавана было, аднак, спраўдзіцца. Адзін з амапаўцаў, што пагледзеў у маё пасведчанне сябры Беларускага ПЭН-цэнтра, запытаўся: «А что такое ПЭН-центр?». Я адказаў, што гэта міжнародная пісьменніцкая арганізацыя.

— У, сука, сейчас зажмём тебе пальцы в двери, тогда и попишешь…

***P.S.: Знаёмая карцінка? Аднак усё гэта адбывалася ў ноч з 17 на 18 кастрычніка 1999 года, пасля «Маршу Свабоды» ў Мінску з сябрам Беларускага ПЭН-цэнтра, філосафам, пісьменнікам Алесем Анціпенкам. Дваццаць адзін год таму яны былі такія ж. Проста большасць нашага грамадства тады гэтага яшчэ не заўважала. Таму вельмі важна дайсці да канца. Каб яшчэ праз 20 гадоў ніхто не змог дзяліцца такімі ж жахлівымі гісторыямі, як у жніўні-верасні 2020-га.***

# «Я не дам у крыўду маю краіну, маіх дзяцей і сябе саму»

**За апошнія месяцы беларускам давялося прайсці праз многае. І пакуль у іх не было часу на тое, каб разабрацца ў сваіх пачуццях, прагаварыць і пражыць іх. TUT.BY задаў некалькім гераіням пытанне: «Як вас змяніў гэты жнівень?» І ў кожнай — свая гісторыя і свой адказ.**

### Ганна Сарока, дызайнер, пацярпелая падчас затрыманняў

11 жніўня дзяўчына вярталася дадому з вуліцы Маскоўскай, ішла ў раён Гарадскога Вала. Ганна распавядае, што яна спусцілася з моста паміж Інстытутам культуры і плошчай Незалежнасці — і ўбачыла некалькі сілавікоў. Дзяўчына кажа, што спытала ў іх, як можна дабрацца да дома — яе падахвоціліся праводзіць. Аднак, калі падышлі да Чырвонага касцёла, каля якога быў прыпаркаваны аўтобус, Ганну — цытата — «запіхалі туды і абвінавацілі ў тым, што "каардынатар пратэстаў"».

Ганна атрымала сур'ёзныя фізічныя калецтвы. Прызнаная вінаватай паводле артыкулаў 23.34 КаАП (Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў) і 23.4 (Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў). Прысуджаная да 20 сутак.



— Я была вельмі напалоханая падзеямі, якія разгортваліся 9-га і 10-га жніўня. Але не магла нават уявіць, што мне (я ішла адна, побач нікто не мітынгаваў, да дома — 200 метраў) можа нешта пагражаць.

І калі мяне затрымалі, я была ў дзікім шоку. Адчувала сябе гераіняй аднаго з відэасюжэтаў, якія глядзела пра Норд-Ост або Бяслан. З галавы імгненна выветрылася, што ў мяне ёсць нейкія правы, што я грамадзянка сваёй краіны, што я не парушала закон. Я думала толькі пра тое, як мне выжыць. Як дзейнічаць, каб нікога не раззлаваць, што сказаць, каб цябе не білі. Задаеш пытанне — вельмі моцна крычаць. Ага, зразумела, значыць лепш маўчаць. Памятаю, што я ўвесь час заплюшчвала вочы і малілася пра сябе: «Божа, калі ласка, хай я адкрыю вочы — і акажацца, што гэта быў сон. Як я тут аказалася? Гэта не можа быць праўдай».

І думала: «Окей, калі мне дадуць 10, хай нават 20 сутак — я гатовая. Але калі мяне чакае 15 вось такіх гадоў, я не вынесу гэтага». Я вырасла ў сям'і, дзе нікога не білі, і кожны ўдар даўся мне вельмі цяжка. Зусім не была да гэтага гатовая.

Я ўвесь час сябе суцяшала: калі мне цяпер так дрэнна, значыць, горш ужо не будзе. Але так атрымлівалася, што ў наступную секунду адбывалася нешта яшчэ больш жудаснае — і здавалася, што дна няма.

Да гэтай сітуацыі я лічыла сябе эмацыйным чалавекам з вельмі далікатнай нервовай сістэмай. Але жыццё паказала, што гэта не так. У самай крытычнай кропцы ў мяне прачынаецца інстынкт самазахавання, і я, нягледзячы на туман у галаве і слёзы градам, пачынаю рабіць усё, каб выкараскацца.

Калі я патрапіла на Акрэсціна, здолела сабрацца і настроіла сябе не на панічныя атакі, а на прыняцце сітуацыі. Гэта ўжо здарылася, і цяпер я павінна нейкім чынам атрымаць з гэтага карысць: паглядзець, на што я здольная, запомніць дэталі таго, што адбываецца, каб распавесці сябрам, калі ўсё гэта скончыцца.

Мы з дзяўчаткамі-сукамерніцамі як маглі падбадзёрвалі адна адну, хоць было вельмі холадна і страшна. Спрабавалі жартаваць, што гэта мы на такім рэтрыце, дзе забаронена смачная ежа і алкаголь, проста 100-працэнтны дэтокс: «Якімі мы красунямі адсюль выйдзем, вы ўяўляеце?»

Ціснула на псіхіку толькі тое, што мы ўвесь час чулі: «Вы там нікому не патрэбныя. Ніякіх пратэстаў няма. Людзей усё задавальняе».

Але калі я выйшла і ўбачыла, колькі чалавек дзяжурыць пад Акрэсціна, колькі валанцёраў і сяброў нас чакае, стала ясна, дзе праўда. Столькі слоў падтрымкі, столькі абдымкаў, а тут яшчэ і партрэт мой хтосьці намаляваў. (Смяецца.) І зноў было адчуванне нерэальнасці таго, што адбываецца, але гэтым разам яно суправаджалася радасцю і падзякай за ўсё.

Журналісты нават дзівіліся: «А чаму вы сваю гісторыю так лёгка расказваеце і яшчэ жартамі разбаўляеце?» Ну, мабыць, мая псіхіка абрала менавіта такі спосаб самаабароны. Я памятаю ўсё да драбнюткіх дэталяў, але, калі кажу пра гэта, ёсць адчуванне, што пераказваю сюжэт фільма. І ўжо не зразумела, хто прайшоў праз гэты жах: я ці гераіня нейкага жорсткага баевіка.

Ведаеце, як ні парадаксальна, гэтыя падзеі дапамаглі мне лепш спазнаць сябе. У нейкі момант было адчуванне, што я жыву на чарнавік і ніяк не магу знайсці сябе. А калі я выйшла з Акрэсціна, успомніла, хто я ёсць, якія ў мяне прынцыпы, што для мяне па-сапраўднаму важна. Гучыць дзіка і смешна, але тое, што шукала ў псіхолага, я, здаецца, выпадкова знайшла ў турме. Мне спадабалася тая Ганна, з якой я там пазнаёмілася.

### Ганна Кулакова, прадпрымальнік, валанцёр на Акрэсціна

Падчас працы валанцёрам на Акрэсціна Ганна была сярод тых, хто першым убачыў стан, у якім адтуль выходзяць людзі.

— Памятаю, што было адчуванне нерэальнасці таго, што адбываецца. А ў галаве круцілася толькі адна фраза: «Божухна,



гэта вайна». Тое, што мы чыталі ў падручніках гісторыі і ў кнігах аб Вялікай Айчыннай, я ўбачыла на свае вочы.

Тады трэба было выпіць запакаяльнага і дзейнічаць — плакала ўжо потым. Ведаеце, чым ратавалася, калі было зусім паршыва? Нон-стопам пераглядала «Гары Потэра» (Усміхацца.)

Так, рукі ў мяне дрыжаць да гэтага часу, але страху больш няма. Ёсць разуменне, што маўчанне цяпер таксама злачынна, як і тое беззаконне, з якім мы не можам змірыцца. Ёсць велізарнае жаданне ні ў якім разе не здавацца. Нават калі са мной здарыцца дрэннае… суткі пралятаюць хутка, а сумленне і пачуццё ўласнай годнасці, варта іх хоць адзін раз страціць, — ужо не вярнуць.

Калі апускаюцца рукі, успамінаю, як мой маленькі сын, які на свае вочы ўбачыў, як людзей хапаюць на прыпынку, калі мы праязджалі міма на машыне, спытаў: «Мама, што гэта?! Мама, гэта бандыты?» Я хачу, каб маё дзіця расло ў краіне, дзе ў яго не будзе падставы задаваць мне такія пытанні.

Адчуванне, што мы сфарміраваліся як грамадзянская супольнасць і нас шмат, надае мне сіл. Так, на адной шалі вагаў дзікі жах, беззаконне і боль, але на іншай — выдатныя людзі: урачы, навукоўцы, творчыя людзі, прадпрымальнікі, айці-спецыялісты, рабочыя, годныя ваенныя. Светлыя, удумлівыя, здольныя на эмпатыю беларусы.

Мабыць, мы чакалі моманту, каб паказаць сябе. Саромеліся. Ну, сарамлівы мы народ, што зрабіць.

Саромеліся-саромеліся — дый перасталі. І што мы бачым? Неверагоднае згуртаванне, адсутнасць страху, каласальную падтрымку. І гэта варта ўсіх тых жахаў, што мы перажывалі.

Гадоў 5–6 таму мне давялося пагаварыць з Міхаілам Саакашвілі, і я спытала, што ён думае пра беларусаў. Ён вось што сказаў: «У беларусаў унікальны патэнцыял. Яны еўрапейцы, па сваёй ментальнасці — сапраўдныя швейцарцы. Інтэлігентныя, працавітыя. Усё ў іх будзе добра».

### Алена Дубовік, заснавальнік Цэнтра псіхалагічнай дапамогі, маці аднаго з затрыманых

Сын Алены быў незалежным назіральнікам і знаходзіўся ў ініцыятыве «Сумленныя людзі» — яго арыштавалі яшчэ ў перыяд датэрміновага галасавання прама на ўчастку (арт. 23.4 КаАП — непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў). Суд прысудзіў маладога чалавека да 10 сутак.

— Калі пачула прысуд, я, вядома, адчула ўзрушэнне. Але разумела, што цяпер мне трэба ўзяць сябе ў рукі, каб падтрымаць Ваню. Для мяне было вельмі важна, каб ён бачыў і разумеў — я на яго баку. І калі я чула яго голас, як спакойна, пісьменна і сумленна ён адказвае на абвінавачванні, не магла не захапляцца ім. Мой сын быў упэўнены ў сваёй праваце, а таксама ў тым, што закон і праўда існуюць.

Вядома, я адчувала вельмі



моцны боль і вельмі моцны гнеў. Але яшчэ мацней быў гонар за яго.

Калі твае блізкія трапляюць у такую варонку, ёсць вялікая спакуса папракнуць іх: «А вось навошта ты палез? Трэба было быць разумнейшым. Спадзяюся, ты больш нічога падобнага мне не падкінеш?» Гэта няправільна.

Мужчыны ў такім становішчы вельмі ўразлівыя. У цяжкія часы актывізуецца архетып героя, і для іх вельмі важна гэтымі самымі героямі быць. І калі маці, любімыя жанчыны абясцэньваюць, асуджаюць, забараняюць — гэта раніць іх яшчэ мацней, чым несправядлівасць і беззаконне.

Я адразу выбрала пазіцыю адкрытасці, і пасля абвяшчэння прысуду напісала ў Фэйсбуку: «10 сутак арышту. Ваня — герой!». (Плача.) Мне было важна заявіць пра гэта, каб усе ведалі. І я адчула каласальную падтрымку людзей. Гэта дапамагло: хоць я не магла ні есці, ні спаць, аднекуль з'яўляліся сілы — і я трымалася. Працавала, стэлефанавалася з адвакатам, насіла перадачы…

Перадачы — асобная гісторыя. Калі стаіш у сярэдзіне велізарнай чаргі — па маіх адчуваннях, некалькі сотняў чалавек — ты трапляеш у эпіцэнтр вялізнага агульнага гора. Мне было лягчэй, калі я даведалася, што сын падзяліўся сваёй перадачай з тымі, чые родныя не паспелі адстаяць гэтую чаргу.

Ён распавёў, што з ім у адной камеры сядзелі людзі, арыштаваныя па іншых абставінах, якія вядуць іншы лад жыцця: алкаголікі, хуліганы, злодзеі. Кранальна, што яны з вялікай павагай і піетэтам ставіліся да Вані і іншых арыштаваных падчас выбараў. Казалі, маўляў: «Ну, мы заслужылі, а вы, хлопцы…» Ваня сказаў, што ў гэтых людзях чалавечай годнасці больш, чым, скажам так, у многіх іншых. (Усміхацца.)

Адзін з сукамернікаў Вані — ён крадзе каўбасу ў краме, перапрадае і колецца за гэтыя грошы — патэлефанаваў мне, калі выйшаў. З тэлефона маці — няма свайго. Сказаў: «Ваш сын вельмі добры. З ім усё ў парадку, не хвалюйцеся, калі ласка».

Не перажываць было цяжка. І мне, таму што з жорсткім затрыманнем і збіццём ужо сутыкнуўся сын маёй сяброўкі, а потым пра гэта ж сталі пісаць у сацсетках…

І Ваня бачыў, што ў камеры трапляюць «сінія» людзі, але не мог зразумець, што адбываецца. Тыя, хто прыбываў, распавядалі жудасныя рэчы, і сын задаваўся пытаннем: «У якую ж краіну я выйду?».

Ён выйшаў 14 жніўня — праз 10 сутак і 1 гадзіну пасля затрымання. І гэтая гадзіна была, напэўна, самай цяжкай у маім жыцці. Але, калі я ўбачыла Ваню, увесь боль пераплавіўся ў любоў.

Я адчула, што павінна зрабіць нешта для тых, хто аказаўся ў той жа сітуацыі, што і мая сям'я. І калі мы ў нашым цэнтры пачалі аказваць валанцёрскую дапамогу пацярпелым і іх блізкім, выплюхнулася столькі болю… болю цэлай краіны. Пацярпелі не толькі тысячы затрыманых. Пацярпела ўся нацыя. Нават звычайныя кліенты, якія не былі ўдзельнікамі падзей, як адзін казалі: «мне страшна», «мне балюча», «я не магу спаць», «я не ведаю, як жыць далей».

Сын ужо быў дома, і я нарэшце змагла сабе дазволіць аплакаць усё гэта. У гэтых слязах было шмат праведнага гневу, шмат нязгоды: «Не, гэтага быць не павінна. І гэта нельга забываць. Нам трэба прызнанне віны і пакаянне».

З якім пачуццём я жыву цяпер? З болем. І з верай: «Я не дам у крыўду маю краіну, маіх дзяцей і сябе саму». І гэтая вера мацней за ўсё.

**Друкуецца ў скароце.**
**Фота Алы Шылец**

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Вяртанне блуднай палітыкі

**Працэс акуклівання беларускай мадэлі імкліва паскараецца. Яна ўжо не мае патрэбы ў знешняй легітымацыі.**

**Пра беларускую мадэль за гады яе будаўніцтва сказана нямала. Але, напэўна, нікому не ўдавалася ў больш канцэнтраваным выглядзе перадаць яе галоўную асаблівасць. Беларуская эканоміка — эканоміка без людзей.**




© Natalia Fedosenko/ITAR-TASS/imago images

Між іншым, калі хто забыўся, эканоміка належыць да навук гуманітарных — гэта значыць, да навук, якія вывучаюць чалавека, грамадства і культуру.

Microsoft, Google і іншыя сусветныя лідары ў пытаннях стварэння штучнага інтэлекту адпачываюць. У той час, як у сваіх крэмніевых далінах яны спрабуюць зрабіць першыя нясмелыя крокі ў напрамку шостага эканамічнага ўкладу, у Беларусі ўжо больш за дзесяць гадоў функцыянуе эканоміка без людзей.

Поўная рабатызацыя! Не верыце? Тады рэкамендую паглядзець, як дружна галасуюць нашы дэпутаты любога ўзроўню і з любой нагоды.

У 2009 годзе прэм'ер-міністру далі прачуханку за тое, што заікнуўся пра неабходнасць перакрэдытаваць асобную галіну. У 2020 годзе сваю дамоўленасць з Пуціным наконт перакрэдытавання ўжо не асобнай галіны, а беларускай мадэлі ў цэлым, адзіны палітык (АП) прадэманстраваў новым палітыкам у якасці чарговага асабістага дасягнення: «Павінен вам сказаць, што гэта было маё патрабаванне. І прэм'ер, і міністр фінансаў мне прапанавалі выплаціць гэты крэдыт — у гэтым годзе мы мільярд павінны былі ім па старой нашай запазычанасці вярнуць. Пры ўсіх складанасцях мы гатовыя былі вярнуць гэты мільярд. Гэта не новы крэдыт. Гэта была мая просьба да кіраўніцтва Расіі аб тым, што мы гэты мільярд у гэтым годзе вам не выплачваем, пакідаем у сябе і пераносім на будучы год. Працэнт там прымальны. То-бок, гэта пытанне рэфінансавання».

## Вертыкаль прыватных інтарэсаў

«Стабільнасць — галоўны брэнд нашай краіны» (АП). Да 9 жніўня яго падтрыманне забяспечвалася, галоўным чынам, адміністрацыйнымі метадамі. Палітыка ў краіну, якая прэтэндуе на званне донара еўрапейскай стабільнасці, прыйшла нечакана і знізу. На вяршыні ўладнай «вертыкалі» гэтага ніхто не чакаў.

Першая афіцыйная рэакцыя на прыход палітыкі чымсьці нагадала рэакцыю лапкі жабы на электрычны разрад: «вертыкаль» заторгалася і стала наносіць бязладныя ўдары гумовымі дручкамі. Так працягвалася некалькі дзён.

Для першай сур'ёзнай высновы спатрэбіўся месяц. На сустрэчы з палітычным актывам краіны АП паведаміў, што бліжэйшым часам будуць прыняты меры... па ўзмацненні статусу дзяржаўнага службоўца.

Улічваючы, што ў Палацы Незалежнасці сабраліся вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы (каля 300 чалавек), ніхто не запярэчыў.

За ўсё ў гэтым жыцці даводзіцца плаціць, а даражэйшае за ўсё ў дзяржаве для народа — права аднаасобна прадстаўляць інтарэсы народа. Без памочнікаў у гэтай справе не абысціся.

Памочнікаў неабходна матываваць. Як бы аддана яны ні глядзелі ў вочы кіраўніку, у якіх бы паважных паставах ні застывалі, думаюць яны пры гэтым пра сваё. Таму любая ўладная вертыкаль — гэта вертыкаль прыватных інтарэсаў.

Беларускае грамадства, нягледзячы на бурны рост яго айцішнага і іншых сучасных складнікаў, у аснове сваёй застаецца грамадствам саслоўным. «Становішча саслоўя, — тлумачыць расійскі сацыёлаг Сымон Кардонскі, — вызначаецца яго блізкасцю да цэнтра размеркавання рэсурсаў. Вышэй за ўсіх у іерархіі стаяць групы, якія непасрэдна служаць дзяржаве: чыноўнікі, вайскоўцы, работнікі органаў бяспекі».

У пералічаных Кардонскім саслоўяў за чвэрць стагоддзя склаліся ў Беларусі ўласныя інтарэсы. А паколькі бялізна сусветных брэндаў чыноўнікам бліжэйшая да цела, то свае інтарэсы прадстаўнікі ядзерных саслоўяў (якія складаюць ядро сістэмы) гатовыя абараняць усімі даступнымі ім сродкамі. Пры гэтым прозвішча першай асобы асаблівага значэння не мае.

## Аналаг палавога акту

Пакуль я падшукваў патрэбныя словы, каб скласці з іх сказы для сваёй новай «азбукі паліталогіі», галоўны спецыяліст па дatаванні еўрапейскай стабільнасці вырашыў чарговым разам здзівіць свет і правёў таемную інаўгурацыю ў рэжыме спецаперацыі.

Адкрываю Вікіпедыю: «Інаўгурацыя — рытуал урачыстай цырымоніі ўступлення на пасаду кіраўніка дзяржавы. У аснове сваёй рытуал запазычаны з цырымоніі каранацый манархаў».

Рытуал інаўгурацыі выпрацоўваўся стагоддзямі. Ён не ўтрымлівае выпадковых элементаў. І толькі ўсе разам яны робяць уладу першай асобы сапраўднай. У гэтым і палягае асноўны сэнс цырымоніі.

Законнасць уступлення ва ўладу пацвярджае публічнасць інаўгурацыі. Легітымнасць, нагадаю, азначае добраахвотнае прызнанне грамадствам права кіраўніка дзяржавы на прыняцце абавязковых для ўсіх рашэнняў. Гумовымі дручкамі падняць узровень легітымнасці яшчэ ні ў кага не атрымлівалася.

Тут напрошваецца аналогія з палавым актам. Калі ён здзяйсняецца не па ўзаемнай згодзе бакоў, то называецца «згвалтаваннем» і цягне крымінальную адказнасць. Вось чаму гвалтаўнікі, як правіла, пазбягаюць публічнасці.

Для тых, хто яшчэ не да канца зразумеў ролю публічнасці ў цырымоніі інаўгурацыі, працытую рэдактара аддзела палітыкі «Новой газеты» Кірыла Мартынава: «Таемна можна забіваць палітычных канкурэнтаў (у гэтым у нас цяпер усе майстры), ладзіць змовы і перавароты, узурпаваць уладу. Чаго нельга зрабіць таемна — дык гэта ўступіць на законную пасаду. Тут само дзеянне мае на ўвазе публічнасць, паколькі легітымнае прыняцце ўлады немагчыма без прызнання гэтага факту з боку падуладных».

Таемная інаўгурацыя — гэта нешта з арсенала шаманаў. Свае права на ўладу яны звязваюць з сіламі, недаступнымі разуменню супляменнікаў — гэта значыць, з сіламі, наўпрост з рэальнасцю не звязанымі.

## Адмысловая форма народаўладдзя

У дадзяржаўны перыяд гісторыі правадырам першабытных супольнасцяў паляўнічых і збіральнікаў знешняя легітымнасць была да лямпачкі (зрэшты, не ўпэўнены, што выкарыстанне выразу «да лямпачкі» ў гэтым выпадку карэктнае). Для ўтрымання ўлады правадырам цалкам хапала легітымнасці ўнутранай. У слаўнае дадзяржаўнае мінулае, калі пагадзіцца з заявай Міністэрства замежных спраў Беларусі ад 24 верасня, мы і вярнуліся: «Беларускі народ не мае патрэбы ў "легітымізацыі" сваёй улады з боку саманазваных факультатыўных "легітыматараў". Гэтае пытанне з'яўляецца надуманым і штучным».

Такім чынам, пакуль архітэктары беларускай мадэлі выбудоўвалі ў Мінску пляцоўку для правядзення «Еўрапейскага дыялогу», будучыя ўдзельнікі саміту «Хельсінкі-2» дэградавалі да стану «саманазваных факультатыўных "легітыматараў"». І з кім жа цяпер весці дыялог?

Застаецца, нібы закансерваваны ва ўласным соку бычок, замкнуцца ў межах бляшанкі і цалкам пераключыцца на ўнутраны дыялог. Прызначаны на снежань-студзень чарговы Усебеларускі сход да гэтага схіляе.

Галоўнае — не прамахнуцца пры выбары (прызначэнні) дэлегатаў. Але чытачы НЧ могуць спаць спакойна. Даручэнне «ўважліва падысці да пытання абрання дэлегатаў» ужо накіраванае кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта, ураду, кіраўнікам аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама.

«Гэта будзе агульнанацыянальны дыялог, — падкрэсліў АП. — Таму прымаць удзел у форуме павінны прадстаўнікі ўсіх слаёў грамадства, усіх сацыяльных і прафесійных груп, патрыятычных аб'яднанняў і партый, дэпутаты ўсіх узроўняў. Дэлегаты павінны быць ад кожнага буйнога прамысловага прадпрыемства. Не толькі кіраўнікі, але і рабочыя ад станка, якія прадстаўляюць працоўныя калектывы».

У чарговы раз АП назваў Усебеларускі народны сход вельмі важным органам, асаблівай формай народаўладдзя, «якая тады, у сярэдзіне 90-х, выратавала краіну». Між іншым, у Канстытуцыі ўзору 1996 года наконт асаблівай формы народаўладдзя не сказана ні слова. Таму яго рашэнні не могуць мець абавязковай сілы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Тым не менш, форум рэгулярна такія рашэнні прымаў.

Мяркую, тут ёсць чым заняцца пракуратуры.

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# «Прыстасавацца можна да ўсяго, акрамя беззаконня, што адбываецца ў краіне»

**Алесю Шаўчэнка затрымалі 12 верасня на чарговым жаночым маршы. Дзяўчыне прысудзілі 11 сутак, якія яна правяла на Акрэсціна і ў Жодзіна, а таксама выпісалі афіцыйнае папярэджанне, у якім пагражаюць крымінальнай справай. Сваімі ўражаннямі Алеся падзялілася з «Новым Часам».**


**Алеся.** Фота прадастаўлена гераіняй публікацыі

— Збор павінен быў адбыцца ў 15.00 на плошчы Свабоды (мы потым смяяліся з сукамерніцамі аб затрыманні на плошчы з такой гаворачай назвай). Я прыйшла крыху загадзя, будзем лічыць, што мая пунктуальнасць мяне і падвяла, — узгадвае Алеся Шаўчэнка.

— Падзеі сталі развівацца імкліва. Спачатку пад'ехала першая партыя «алівак» і ачапіла нас. Пачалася цісканіна, адной дзяўчыне стала дрэнна, і ёй спрабавалі паклікаць лекара. Лекарам аказалася хтосьці з мітынгоўцаў, ёй аказалі дапамогу. Атмасфера была жудасная, мы крычалі, што нас душаць, і прасілі адпусціць. «Каму душна — хай выходзяць!» — сказаў нехта з сілавікоў, але, натуральна, усё заставаліся стаяць у сцэпцы. Я была ў сярэдзіне натоўпу і старалася не паддавацца паніцы, бо не першы раз удзельнічаю ў такіх мерапрыемствах. Праз некалькі хвілін я павярнула галаву і ўбачыла, што амаль усіх, хто стаяў за мной, сілавікі пачалі затрымліваць, і мяне «выціснулі» да першых шэрагаў. Але там я прастаяла нядоўга, мяне таксама выцягнулі і суправадзілі ў аўтазак. Я не супраціўлялася і спецыяльна ішла з паднятымі рукамі, па-першае, каб ніхто з іх да мяне не дакрануўся, а па-другое, каб не абвінавацілі ў супраціве.

### «Было адчуванне, што ты здымаешся ў фільме Кустурыцы»

— Пачынаючы з 14 ліпеня я старалася не прапускаць ніводнага пратэсту. Я выразна ўсведамляла сваю грамадзянскую пазіцыю і рабіла ўсё, што ад мяне залежыць. Яшчэ адным трыгерам для мяне было тое, што кампанія, дзе я працавала (краўдфандынгавая платформа «Улей», чым заснавальнікам з'яўляецца Эдуард Бабарыка) была заблакаваная «звыш». Нам давялося цалкам спыніць запуск новых праектаў, а з-за заблакаваных рахункаў мы не атрымлівалі зарплату. Пасля гэтага я зразумела: трэба выходзіць не толькі за сябе, але і за тых людзей, хто незаконна асуджаны і знаходзіцца пад арыштам.

Кожны раз на працягу гэтых месяцаў я давала сабе ўстаноўку: «Так, калі цябе затрымаюць, не хвалюйся, не дай эмоцыям цябе здушыць, будзь моцнай і ўключай халодны розум». Таму ў момант затрымання і далейшага арышту я была маральна гатовая. Яшчэ вельмі ратуе гумар. Калі мы ўсе апынуліся ў аўтазаку, адна з дзяўчат дастала ручны вентылятар, і мы ім маглі трохі астудзіць наш запал. Хтосьці спяваў, жартаваў, чытаў малітвы, наогул было адчуванне, што ты здымаешся ў фільме ў Кустурыцы. А яшчэ мы тады вельмі перажывалі, што марш зараз згагнецца — і ўсе разыдуцца.

### Акрэсціна — суд — Жодзіна

— Нас павезлі ў Фрунзенскае РУУС, па дарозе я паспела адправіць трансляцыю геалакацыі, каб палегчыць блізкім мой пошук. Па прыездзе нам усім выдалі маскі для твару, прапанавалі ваду, вадзілі ў прыбіральню, у цэлым ставіліся да нас нармальна. Амаль усе супрацоўнікі, з кім атрымалася пагаварыць, паўтаралі: не хвалюйцеся, да вечара будзеце дома. Гэта, калі шчыра, усяляла надзею. На нас усіх склалі аднолькавыя пратаколы за парушэнне ч.1 арт. 23.34 КаАП: нібыта мы выкрыквалі: «Жыве Беларусь!», «Ганьба!», «Сыходзь!», а яшчэ ў графе «адукацыя» было напісана «сярэдняя» — мабыць, для статыстыкі. Пасля доўгіх гадзін чакання ў закрытай камеры нас адвезлі ў ЦІП на Акрэсціна.

Наогул гэта ўсё нагадвала засяленне ў лагер. Каля цябе крутыя дзяўчаты, твае аднадумцы, праўда, з важатымі не пашчасціла...

Увесь далейшы час мы чакалі панядзелка і рашэння суда. «Суд», канешне, — таксама асобная тэма. Калідор, ты стаіш тварам да сцяны, чакаеш сваё прозвішча, па двух баках стаяць сталы, на іх ноўтбукі (як пазней высветлілася, інтэрнэт раздавалі супрацоўнікі са сваіх тэлефонаў). Мае зносіны з «высокім судом» былі каля 20 хвілін, што ў параўнанні з іншымі было шмат. На судзе мае інтарэсы прадстаўляла адвакатка. Спойлер: іх прысутнасць ніяк не ўплывае на рашэнне. Мне прысудзілі 11 сутак адміністрацыйнага арышту. Як налічвалі суткі — было загадкай, мы жартавалі, што ў суддзяў была рулетка, як на гульнявых аўтаматах, падчас абмеркавання яны такія: «Шаўчэнка» — і там выпадала лічба. У асноўным усім давалі ад 11 да 15 сутак.

На наступны дзень усіх маіх сукамерніц перавялі ў Жодзіна, а мяне пакінулі. І вось ты сядзіш, губляешся ў здагадках, чаму цябе пакінулі, уключаеш дэдукцыю, тысячы схем, а на справе — яны проста згубілі маю пастанову з суда. Так што ў Жодзіна я ўсё-ткі зганяла з наступнай партыяй.

### «Для супрацоўнікаў была забаўка — прынізіць жанчыну»

— Чым больш іх было ў адным месцы, тым больш каментарыяў яны адпускалі ў наш бок. Для іх была забаўка — прынізіць жанчыну, прычым некаторыя ім у маці падыходзілі. Праўда, у Жодзіна кантынгент быў лепшы. У цэлым, як ні дзіўна гэта гучыць, у параўнанні з Акрэсціна, там было лепш. Дзе тут можна паставіць ім ацэнку за знаходжанне? Запомніўся адзін супрацоўнік, які выводзіў нас з Жодзіна. Румяны такі, са шчочкамі, погляд добры. Мы яму кажам: ты ж добры, пераходзь на наш бок, а ён — павінен жа нехта з добрых заставацца тут. І я зразумела, што нават у гэтай гнілой шасцярэньцы павінен быць хоць адзін элемент, у чыіх сілах нешта змяніць.

### «Я атрымала каласальную падтрымку з розных куткоў свету»

— За ўвесь час я атрымала 2 перадачкі, бо мяне перавялі ў сераду ў Жодзіна, а серада — гэта адзіны дзень для перадачак. Усе запіскі супрацоўнікі выкідалі, таму пасланні часам удавалася знайсці, напрыклад, у кніжцы. Дзе яшчэ — не буду распавядаць, ці мала што. Вядома, вельмі складана знаходзіцца ў ізаляцыі столькі часу, без доступу да інфармацыі. Што, калі народ здаўся, няўжо дарма мы тут сядзім за нашу і вашу свабоду? Але гэтыя думкі хутка развеяліся ў дзень майго выхаду, тады ж адбыўся пратэст супраць таемнай інаўгурацыі АРЛ.

Я атрымала каласальную падтрымку з розных куткоў свету, ад блізкіх і незнаёмых людзей. Мне тут жа прапанавалі аплаціць выстаўлены рахунак за ежу — 148 рублёў. Дзякуй ім усім вялізны, гэта вельмі моцна матывуе ісці далей.

### «Я буду змагацца»

Абсалютна да ўсяго можна прыстасавацца: ежа, койка, асабісты камфорт, — акрамя аднаго. Поўнага беззаконня, якое адбываецца ў маёй краіне. Калі ёсць найменшы шанец з майго боку гэта змяніць, я буду змагацца.

Здагадваюся, што мэтай арышту быў выпраўленчы характар. Мо спадзяваліся, што вось мы ўсе выходзім, раскайваючыся за свой учынак, і спрэс забываем усё, што было ў нашым жыцці «да». Ідзем у ЦУМ, купляем чырвона-зялёную тканіну і выдаляемся з усіх апазіцыйных каналаў. Але адзінае, як мне здаецца, што ў іх атрымалася зрабіць, дык гэта ўсяліць упэўненасць, што мы ўсё робім правільна.





**Затрыманні на Жаночым маршы. Мінск, 12 верасня 2020 года.** Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Ствараецца апаратыўная прастора для дыверсій на мяжы Беларусі

Дзяніс ІВАШЫН

**Улада мэтанакіравана ўцягвае Беларусь у расійскія ваенныя авантуры, скіраваныя на далейшае супрацьстаянне з дзяржавамі блоку NATO і Украінай. Супольныя вучэнні «Славянскае братэрства–2020» з дзяржавай-агрэсарам РФ не толькі прадэманстравалі, што РБ знаходзіцца ў антызаходнім фарватары знешняй палітыкі Расіі, але і зменшылі міжнародную суб'ектнасць Рэспублікі Беларусь на тле паўнавартаснага разгортвання ў ваенным плане так званай «Саюзнай дзяржавы». Адбываецца катастрафічны падрыў усёй сістэмы нацыянальнай бяспекі Беларусі.**

Супольныя тактычныя вучэнні «Славянскае братэрства» пачалі праводзіць на наступны год пасля акупацыі Крыму і расійскага ўварвання ў Данбас. Адной з асноўных задач было паказаць свету, што, нягледзячы на ваенны канфлікт з Украінай, Расію надалей падтрымліваюць іншыя «братэрскія» славянскія дзяржавы, перадусім Беларусь і Сербія. Першыя вучэнні адбыліся ў 2015 годзе ў Расіі, праз год — у Сербіі, а з 6 па 15 чэрвеня 2017 года супольныя вайсковыя манёўры прымала на сваёй тэрыторыі Беларусь.

Згодна з вызначанай чарговасцю наступныя трохбаковыя расійска-беларуска-сербскія вучэнні меліся адбыцца сёлета з 10 па 15 верасня ў Беларусі, аднак Сербія за дзень да іх старту адмовілася ад удзелу. Паказальна, што не адбыліся таксама і запланаваныя на верасень у Сербіі супольныя беларуска-сербскія вайсковыя вучэнні «Совместный удар». Відавочна, рашэнні гэтай балканскай краіны, апошняга аскепка «славянскага братэрства», прадыктаваныя цывілізацыйным выбарам, які ўжо не палягае ў парадыгме «русского мира».

### Кардынальная і раптоўная змена фармату вучэнняў

Першапачатковы фармат вучэнняў прадугледжваў удзел толькі дэсантных падраздзяленняў Узброеных сіл (УС) Паветрана-дэсантных войскаў (ПДВ) РФ, Сілаў спецыяльных аперацый УС РБ і сербскага спецназу, а таксама выкарыстанне толькі аднаго палігону «Брэсцкі» («Сахара»). У 2017 годзе на гэтым палігоне ў вучэннях удзельнічалі агулам каля тысячы вайскоўцаў з 38-й асобнай дэсантна-штурмавой брыгады (АДШБр) УС РБ, 76-й дэсантна-штурмавой дывізіі (ДШД) ПДВ РФ і 63-га парашутнага батальёну Спецыяльнай брыгады УС Сербіі. Былі задзейнічаныя агулам больш за 150 адзінак вайсковай тэхнікі.


Падчас адкрыцця супольных вучэнняў «Славянскае братэрства–2017».
Фота mil.ru (Ваяр)

Асноўнымі мэтамі вучэнняў былі адпрацоўка навучальна-баявых задач па контрдыверсійнай дзейнасці і барацьба з незаконнымі збройнымі фарміраваннямі.

Поўнае змяненне фармату вучэнняў пасля дэмаршу Сербіі відавочна сталася вынікам таемных дамоўленасцяў паміж Лукашэнкам і Пуціным, дасягнутым 14 верасня ў Сочы. У гэты ж дзень вучэнні «Славянскае братэрства–2020» былі афіцыйна распачатыя і трывалі аж да 25 верасня. Тэрмін іх правядзення быў павялічаны ўдвая — з запланаваных раней 6 да 12 дзён.

У шэсць разоў была павялічаная і колькасць удзельнікаў. У вучэннях удзельнічалі агулам ля 6000 чалавек асабовага складу, з іх прыкладна 1000 — вайскоўцы УС РФ. Апроч палігону «Брэсцкі» былі задзейнічаныя таксама «Гожскі», 230-ы агульнавайсковы Абуз-Лясноўскі і 210-ы авіяцыйны Ружанскі палігоны.

У некалькі разоў павялічылася агульная колькасць задзейнічаных падчас вучэнняў асноўных сістэмаў узбраення. Яна склала больш за 500 адзінак узбраення, ваеннай і спецыяльнай тэхнікі (УВСТ), у тым ліку каля 120 адзінак баявой тэхнікі УС РФ. Былі задзейнічаныя каля 90 танкаў, 350 баявых браняваных машынаў, звыш 130 артылерыйскіх установак, РСЗВ і мінамётаў.

Апроч першапачатковага заяўленага ўдзелу толькі 38-й АДШБр, да іх далучыліся таксама падраздзяленні 6-й і 11-й асобных механізаваных брыгадаў (АМБр), 116-й штурмавой і 50-й змяшанай авіябазаў, 51-й артылерыйскай і 336-й рэактыўнай артылерыйскай брыгадаў.

Відавочна, адной з таемных дамоўленасцяў у Сочы сталася і выкарыстанне на вучэннях стратэгічнай бамбавальнай авіяцыі з ядзернай зброяй на борце. Пэўна, у расійскім Генштабе гэта разглядаюць цяпер як адзін з мажлівых спосабаў барацьбы з незаконнымі збройнымі фарміраваннямі.

У межах вучэнняў двойчы — 22 і 24 верасня — два стратэгічныя бамбоўцы-ракетаносьбіты Ту-160 з 6950-й авіяцыйнай базы (Энгельс, Саратаўская вобласць) Паветрана-касмічных сіл РФ здзейснілі спецпалёт уздоўж дзяржаўнай мяжы РБ з краінамі Балтыі, Польшчы і Украіны. Падчас першага палёту, паводле інфармацыі дзяржаўных прапагандыстаў РБ, бамбоўцы мелі на борце ядзерныя боегалоўкі.

23 верасня 6 далёкасяжных гіпергукавых бамбоўцаў-ракетаносьбітаў Ту-22М3 адпрацавалі бамбаванне па аб'ектах умоўнага праціўніка на палігоне Ружанскі. Самалёты ўзляталі з аэрадрома Шайкаўка ў Калужскай вобласці, на якім дыслакуецца 52-і цяжкі бамбавальны авіяполк.

Не выключана, што, як і ў кастрычніку 2016 года, далёкасяжная бамбавальная авіяцыя ПКС РФ адпрацоўвала таксама нанясенне з паветранай прасторы Беларусі ракетных удараў па стратэгічных аб'ектах на тэрыторыі Украіны.

Тактычныя вучэнні «Славянскае братэрства–2020» паводле маштабу і значэння можна смела параўноўваць з супольнымі расійска-беларускімі стратэгічнымі вучэннямі «Захад–2017», у якіх прымалі ўдзел каля 12 700 чалавек, у тым ліку з боку РФ каля 3000 вайскоўцаў. Яны праходзілі на тэрыторыі Беларусі на 6 палігонах і прадугледжвалі выкарыстанне практычна ўсіх родаў войскаў, апроч, вядома ж, марской кампаненты.

Радыкальнае змяненне фармату вучэнняў «Славянскае братэрства–2020» адбылося на тле трывання маштабнага пратэстнага руху ў Беларусі. Відавочна, ён стаў асноўнай прычынай і перадумовай гэтага змянення.

Калі мажлівасць задзейнічання сфарміраванага рэзерву байцоў «Росгвардии» і паліцыі РФ згуляла сваю выключную ролю для кансалідацыі сілаў і сродкаў, прадухілення пратэстных настрояў, сабатажу ў структуры перадусім МУС РБ, то правядзенне вайсковых вучэнняў, якія можна параўноўваць са стратэгічнымі, візіты вышэйшага вайсковага кіраўніцтва РФ у Беларусь закліканыя ўзмацніць маналіт вайсковага падпарадкавання Міністэрства абароны РБ. Гэта чарговае наданне з боку Крамля гарантыі захавання рэжыму Лукашэнкі.

На фоне масавых пратэстаў у Беларусь пад прыкрыццём правядзення апаратыўнай і баявой падрыхтоўкі былі перадысłакаваныя падраздзяленні расійскай арміі. Адной з першых на палігон «Брэсцкі» чыгуначным транспартам прыбыла батальённа-тактычная група (БТГр) 76-й ДШД.

### Тульская 76-я дэсантна-штурмавая дывізія

Паводле ўнікальнай камуфляжнай афарбоўкі, бартавых нумароў і тактычных знакаў на ваеннай тэхніцы вызначана, што першай у Беларусь прыбыла БТГр 234-га дэсантна-штурмавога палка (ДШП, в/ч 74268, пункт сталай дыслакацыі — Пскоў), што паводле арганізацыйна-штатнай структуры ўваходзіць у 76-ю ДШД. Менавіта батальённа-тактычныя групы гэтай дывізіі з'яўляюцца аднымі з асноўных ударных ваенных сілаў у бягучай расійска-ўкраінскай вайне.

У выніку OSINT-расследаванняў міжнароднай выведвальнай супольнасці InformNapalm вызначана, што значная частка вайскоўцаў 234-га ДШП удзельнічала ў спецаперацыі захопу Крыму. У ваеннай агрэсіі супраць Украіны ўдзельнічалі не толькі кантрактнікі, але нават вайскоўцы тэрміновай службы.

Вайскоўцы УС РФ цалкам свядома ехалі ва Украіну выконваць злачынныя загады, больш за тое, у сваіх акаўнтах сацсетак яны адкрыта выхваляюцца атрыманымі за гэта ўзнагародамі ад Міністэрства абароны РФ.

Напрыклад, адным з такіх з'яўляецца расійскі вайсковец з Варонежа Дзмітрый Ушакоў. У 2013–2014 гадах ён праходзіў тэрміновую службу ў складзе 234-га ДШП, меў пасаду стралка-аператара 1-га парашутна-дэсантнага батальёну. Як і шмат яго таварышаў па службе, удзельнічаў у акупацыі Крыму, за што, паводле ўказу Мінабароны РФ, быў узнагароджаны медалём «За возвращение Крыма».

Дакументальна пацверджана, што вайскоўцы 234-га ДШП Дзяніс Лаугін, Андрэй Болатаў і Аляксандр Рахманін за ўдзел у спецаперацыі акупацыі Крыму паводле загаду МА РФ з 29 траўня 2014 года №315 былі таксама ўзнагароджаныя медалямі «За возвращение Крыма».

Валанцёры супольнасці InformNapalm выявілі яшчэ не менш за 20 вайскоўцаў 234-га ДШП, якія былі ўзнагароджаныя медалямі за акупацыю Крыма.

Узнагародныя пасведчанні да гэтых медалёў падпісваў асабіста падпалкоўнік Алег Грыцаеў. Ён камандаваў 234-м ДШП (в/ч 74268) са студзеня 2014 і па кастрычнік 2015 года, а таксама непасрэдна падчас правядзення спецаперацыі захопу Крымскага паўвострава.

Алег Грыцаеў удзельнічаў таксама і ў ваеннай агрэсіі РФ супраць Грузіі ў жніўні 2008 года. Паводле звестак Пскоўскага агенцтва інфармацыі, за гэтую кампанію ён быў узнагароджаны ордэнам Мужнасці.

Характэрна, што Грыцаева ўзгадвае ў сваіх успамінах пра грузінскую кампанію расійскі палкоўнік Генадзь Анашкін: «Утром нам уточнили задачу: выйти на господствующие высоты на окраине Гори и захватить телецентр. Одну нашу роту мы усилили танковым взводом. Командовал этой группой командир батальона гвардии майор Олег Грицаев. Они совершили бросок к телецентру, но не по шоссе (десантники вообще не любят двигаться по дорогам), а через гору».

У кастрычніку 2015 года Грыцаеў стаў намеснікам камандзіра 76-й ДШД, а на яго месца быў прызначаны падпалкоўнік Іван Велікоцкі. Дзякуючы расійскім дзяржаўным прапагандыстам тэлеканала «Россия 1», якія зафіксавалі ўзнагароды Велікоцкага ў відэа, удалося вызначыць, што ён таксама прымаў непасрэдны ўдзел у акупацыі Крыму. Адна з яго ўзнагародаў, што патрапіла ў відэасюжэт, гэта медаль Жукава, якую ён, меркавана, мог атрымаць за ўдзел у баявых дзеяннях у Данбасе.

Падчас правядзення спецаперацыі акупацыі Крыма 76-й ДШД камандаваў палкоўнік Аляксей Наумец, прызначаны на гэтую пасаду яшчэ ў лютым 2013 года. Увосень 2014 года Наумец быў уключаны ў санкцыйны спіс Еўрасаюза за ўдзел пскоўскіх дэсантнікаў у ваеннай агрэсіі супраць Украіны. Падчас яго камандавання вайскоўцы 76-й ДШД удзельнічалі ў баявых дзеяннях у Данбасе і нават у рэйдарскім захопе ўкраінскіх установак для свідравання «Чарнаморнафтагазу».

У лютым 2018 года Наумец пайшоў на павышэнне — згодна з указам Пуціна, ён быў прызначаны на пасаду намесніка начальніка штабу ПДВ РФ.

Месца камандзіра 76-й ДШД заняў палкоўнік Ігар Каплій. Паводле інфармацыі Галоўнага ўпраўлення выведкі МА Украіны, з 2015 па 2017 гады Ігар Каплій на тэрыторыі акупаванага Данбасу з'яўляўся камандзірам 5-й асобнай мотастралковай брыгады (Макеeўка) 1-га акупацыйнага армейскага корпусу Цэнтра тэрытарыяльных войскаў Паўднёвай ваеннай акругі УС РФ. Зараз гэты данецкі корпус уваходзіць у склад 8-й агульнавайсковай арміі УС РФ.

На акупаванай тэрыторыі Украіны ён выкарыстоўваў дакументы прыкрыцця на імя «Игорь Григорьевич Кремень». Наноў на тэрыторыі Данбасу Каплій апынуўся ў лютым 2019 года. Туды яго накіравалі нібыта пасля скандалу з прымусовым зборам сярод падначаленых вайскоўцаў на храм Мінабароны РФ. Характэрна, што колішні палкоўнік ФСБ Ігар Гіркін (Стралкоў) таксама заявіў пра схільнасць Капліяя да пабораў падчас знаходжання апошняга ў акупаваным Данбасе.

У 2020 годзе Каплій стаў слухачом Вайсковай акадэміі Генштабу УС РФ. На яго месца паводле загаду Пуціна з 19 ліпеня 2020 года быў прызначаны палкоўнік Сяргей Чубарыкін.

Станам на вясну 2014 года Чубарыкін быў намеснікам камандзіра 106-й паветрана-дэсантнай дывізіі (ПДД), а з ліпеня 2015 года часова выконваў абавязкі камандзіра гэтай дывізіі. Мае непасрэднае дачыненне да фарміравання батальённа-тактычных груп 106-й ПДД, якія прыцягваліся для выканання баявых задач на Усходзе Украіны. Паказальна, што сярод сваіх узнагародаў ён мае і баявыя: ордэн «За ваенныя заслугі» і медаль «За баявыя адрозненні», якімі Мінабароны РФ магло ўзнагародзіць яго ў тым ліку і за ваенную агрэсію супраць Украіны. Мае ён і медаль і за ўдзел у сірыйскай кампаніі УС РФ.

Біяграфія камандзіраў 76-й ДШД і яе структурных фарміраванняў наглядна сведчыць пра экспансіянісцкі і агрэсіўны характар расійскай арміі. Баявое зладжванне вайскоўцаў гэтага злучэння з падраздзяленнямі беларускай арміі стварае вялізны патэнцыял для правядзення сумесных наступальных ваенных дзеянняў у будучыні — не выключана, што і з тэрыторыі Беларусі. Аднак 76-я ДШД — далёка не адзінае злучэнне, якое выдатна ведае беларускі тэатр ваенных дзеянняў.

## 106-я паветрана-дэсантная Тульская дывізія

Колькасць расійскага вайсковага кантынгенту ў Беларусі для ўдзелу ў супольных вучэннях «Славянскае братэрства–2020» мэтанакіравана нарошчвалася. Яшчэ 13 верасня інфармацыйны рэсурс Мінабароны РФ паведамляў пра ўдзел у вучэннях толькі каля 300 расійскіх пскоўскіх вайскоўцаў.

Аднак ужо 20 верасня было зафіксаванае, што на чыгуначную станцыю Парэчча Гродзенскага раёна прыбылі не менш за два вайсковыя эшалоны з падраздзяленнямі 137-га разанскага парашутна-дэсантнага палку (ПДП) 106-й ПДД УС РФ.

Гэтае павелічэнне расійскай вайсковай прысутнасці на тэрыторыі Беларусі, пэўна, стала вынікам візіту 16 верасня ў Мінск міністра абароны РФ Сяргея Шайгу.

Характэрна, што батальённа-тактычная група разанскіх дэсантнікаў была ўзмоцненая танкавым падраздзяленнем 6-й АМБр з Гродна. Менавіта падчас уварвання ва Украіну ўлетку 2014 года Узброеныя сілы РФ надавалі сваім БТГр як мінімум адну танкавую роту.

У лістападзе 2014 года вайскоўцы 137-га разанскага палка былі зафіксаваныя ў адным з палявых лагераў групоўкі сілаў уварвання ў Няклінаўскім раёне Растоўскай вобласці каля мяжы з Украінай. Яны ўваходзілі ў склад БТГр, укамплектаванай кантрактнікамі 137-га і 51-га ПДП, а таксама асабовым складам выведпадраздзяленняў 106-й ПДД.

Зводная тактычная група была ўзмоцненая артылерыяй і адной танкавай ротай Т-80 са складу 4-й танкавай Кантэміраўскай дывізіі. Значная частка гэтых вайскоўцаў удзельнічала ў летняй кампаніі таго года ў баявых дзеяннях у Данбасе.

## Дэміургі спецаперацыі захопу Крыму

21 верасня для праверкі ходу вучэнняў у Беларусь прылятаў камандуючы Паветрана-дэсантнымі войскамі УС РФ Андрэй Сердзюкоў. Напачатку расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны ён ачольваў штаб і быў першым намеснікам камандуючага Паўднёвай ваеннай акругі УС РФ. Менавіта паводле яго ўказання і з яго непасрэдным удзелам здзяйснялася планаванне ваеннай агрэсіі супраць Украіны, перакідванне сілаў уварвання на тэрыторыю Украіны і іх забеспячэнне.

Падчас крымскай кампаніі намеснікам Андрэя Сердзюкова быў генерал-лейтэнант Андрэй Халзакоў, які прадстаўляў расійскае вайсковае камандаванне падчас вучэнняў «Славянскае братэрства–2020».

Цікава, што паводле супольнага расследавання выдання «Проект» з цэнтрам «Досье» і амерыканскім выданнем «The Daily Beast», Андрэй Халзакоў да нядаўняга часу ачольваў расійскую групоўку вайсковых сілаў у Лівіі, якая дзейнічае на баку мяцежнага генерала Халіфы Хафтара.

23 верасня Сердзюкоў і Халзакоў непасрэдна кантралявалі ход дэсантавання на палігон «Брэсцкі» батальённа-тактычнай групы 98-й ДШД, якое стала кульмінацыйным пунктам вучэнняў.

## 98-я паветрана-дэсантная Свірская дывізія

Прыблізна 20 самалётаў Іл-76МД ваенна-транспартнай авіяцыі ПКС РФ дэсантавалі парашутным спосабам 265 чалавек асабовага складу 217-га ПДП 98-й ДШД і 40 адзінак баявой і спецыяльнай тэхнікі. Варта асабліва зазначыць, што гэты палігон «Брэсцкі» знаходзіцца ўсяго за 2 кіламетры ад Польшчы і за 30 кіламетраў ад Украіны.

Падобнае маштабнае дэсантаванне непадалёк ад дзяржаўнай мяжы з Польшчай і Украінай расійскай БТГр адбылося ўпершыню і можа быць расцэненае як выразная дэманстрацыя цалкам агрэсіўных намераў ваеннага характару ў дачыненні да гэтых дзяржаў.

Паказальна, што гэтая правакацыя супраць суседзяў Беларусі адбылася ў дзень так званай інаўгурацыі Лукашэнкі. Гэтым Расія засведчыла не толькі сваю персанальную пратэкцыю рэжыму Лукашэнкі, але і дадаткова зрабіла яго яшчэ больш залежным ад сваёй волі ў вачах сусветнай супольнасці.

У выніку на тэрыторыі Беларусі адначасова аказаліся адразу тры (!) расійскія батальённа-тактычныя групы злучэнняў, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў ваеннай агрэсіі супраць суседніх з РФ дзяржаў.

Менавіта БТГр выкарыстоўвала Расія падчас актыўнай фазы баёў у Данбасе. Аднак, калі выкарыстанне сваіх Узброеных сілаў у акупацыі Крыма вышэйшае вайскова-палітычнае кіраўніцтва Расіі ўрэшце прызнала, то ў дачыненні да ўдзелу расійскіх вайскоўцаў у баявых дзеяннях у Данбасе яно дагэтуль ужывае міфалагему «ихтамнет». Разам з тым не цалкам нівелююць факты траплення кадравых вайскоўцаў УС РФ у палон да ўкраінскай арміі. Так, 24 жніўня 2014 года падчас актыўнай фазы баёў у Данбасе непадалёк ад населенага пункту Дзэркальнэ Амвросіеўскага раёна Данецкай вобласці былі захопленыя адразу 10 вайскоўцаў менавіта 98-й ПДД.

Праз некалькі дзён пасля гэтага ў палон патрапілі яшчэ два дэсантнікі з 76-й ДШД. За ўвесь час расійска-ўкраінскай вайны колькасць вядомых выпадкаў траплення вайскоўцаў расійскай арміі ў палон УС Украіны дасягнула ўжо некалькіх дзясяткаў чалавек.

Апроч гэтага прапагандысцкая міфалагема «ихтамнет» дашчэнту руйнуецца рэгулярнымі пастаўкамі «грузу-200» з Украіны ў РФ. Рэзанансны матэрыял з расшыфраваннем пераможаў расійскіх вайскоўцаў пра ліквідацыю ў жніўні 2014 года падчас баявых дзеянняў у Данбасе значнай колькасці жаўнераў 1-й роты 76-й ДШД публікавалі раней газета «Псковская губерния» і выданне Slon.ru. У гэтай публікацыі асаблівай увагі заслугоўвае апісанне знішчэння кадравага вайскоўца 76-й ДШД Леаніда Кічаткіна, пахаванага на цвінтары ў Выбутах пад Псковам.



Кадр знакамітага відэа допыту расійскіх ваеннапалонных, якія трапілі ў палон да УС Украіны пад Ілавайскам

Факт яго ліквідацыі і рэальнае месца пахавання стаў адным з першых гучных сведчанняў расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны. Паводле дадзеных супольнасці InformNapalm, у баявых дзеяннях у Данбасе загінулі не менш за 36 вайскоўцаў пскоўскай 76-й ДШД, 4 вайскоўцы 106-й Тульскай ПДД і 4 вайскоўцы кастрамской 98-й ПДД.

## Беларускі плацдарм

З улікам усяго масіву фактаалагічнай інфармацыі павінна быць выразнае разуменне, што любыя вайсковыя вучэнні з дзяржавай-агрэсарам могуць быць падрыхтоўкай да наступальных ваенных дзеянняў.

Падчас вучэнняў «Славянскае братэрства–2020» адпрацоўвалася высоўванне з месцаў сталай дыслакацыі і дэсантаванне батальённа-тактычных групаў, захоп плацдарму, блакаванне населенага пункту, фарсаванне воднай перашкоды цяжкай браняванай тэхнікай, выкарыстанне стратэгічнай бамбавальнай авіяцыі з ядзернымі боегалоўкамі — усё гэта выразна сведчыць пра навучальна-баявую адпрацоўку наступальных дзеянняў.

Пра тое, што гэтыя вучэнні скіраваныя менавіта на наступальныя дзеянні, заявіў і галоўнакамандуючы УС Літвы Вальдэмарас Рушыс.

Варта асабліва зазначыць, што расійска-беларускія вучэнні «Славянскае братэрства–2020» адбываліся паралельна і відавочна скаардынавана з супольнымі стратэгічнымі камандна-штабнымі вучэннямі «Каўказ–2020», якія праходзілі не толькі на тэрыторыі Расіі, але і ў Абхазіі, і ў акупаваным Крыме. Паказальна, што ў іх удзельнічала і батальённа-тактычная група 19-й АМБр Узброеных сілаў РБ. У гэты ж час трывалі вучэнні расійскіх войскаў у Прыднястроўі і на тэрыторыі «Л/ДНР». Усё гэта дэманструе патэнцыял вядзення Расіяй поўнамаштабнай канвенцыйнай вайны на еўрапейскім тэатры ваенных дзеянняў, які ўключае і ваенна-тэхнічныя магчымасці беларускага плацдарму.



Дэсантнікі 234-га ДШП УС РФ пад Брэстам, верасень 2020 года. Фота belta.by

Рэжым Лукашэнкі імкліва ператварае Беларусь з «донара міжрэгіянальнай бяспекі» ў тэрыторыю патэнцыйнай ваеннай пагрозы для краін Балтыі, Польшчы і Украіны. Праблема дадаткова абвастраецца праз сталую прысутнасць падраздзяленняў расійскай арміі ў Беларусі, якая забяспечваецца правядзеннем рэгулярных вайсковых вучэнняў.

З 12 па 16 кастрычніка ў Беларусі павінны адбыцца чарговыя супольныя з РФ вучэнні ў фармаце АДКБ «Нерушимое братство–2020». У жніўні на тэрыторыі Беларусі пад прыкрыццём удзелу ў мерапрыемстве «Армі–2020» знаходзілася зводная група прафесійных ваенных снайпераў УС РФ. Налета запланавана правядзенне супольных стратэгічных вучэнняў «Захад–2021», на тэрыторыі Беларусі будуць адначасова знаходзіцца значныя ўдарныя сілы расійскай арміі.

Агулам на 2020 год запланавана правядзенне прыкладна 130 супольных вайсковых мерапрыемстваў. Гэта надае Расіі магчымасць без стварэння на тэрыторыі Беларусі вайсковых базаў размяшчаць у нашай краіне вайсковы кантынгент на ратацыйнай падставе.

Найпрасцейшай пагрозай для нацыянальнай бяспекі Беларусі ёсць і паступовае знікненне самога чынніку суб'ектнасці Рэспублікі Беларусь. Афіцыйна ў кантэксце вучэнняў вайсковым камандаваннем і РФ і РБ адпрацоўваюцца задачы па абароне выключна заходніх рубяжоў так званай «Саюзнай дзяржавы». Ужо згаданы намеснік камандуючага ПДВ РФ Андрэй Халзакоў на тэрыторыі нашай краіны заявіў: «Мы здесь находимся, чтобы вместе плечом к плечу с вами всеми быть одним организмом во имя нашего Союзного Государства, и границы Союзного Государства будут защищены!»

На тле паўнавартаснага разгортвання ў ваенным плане так званай «Саюзнай дзяржавы» ствараецца аператыўная прастора для рэалізацыі дыверсій на мяжы Беларусі з Еўрасаюзам і Украінай, што надае магчымасць Расіі істотна павялічыць свой вайсковы кантынгент у Беларусі дзеля ўсталявання поўнага ваенна-палітычнага кантролю над нашай краінай.

# «Справядлівасць будзе!»

Алег НОВІКАЎ

**У Мексіцы сенсацыя — да адказнасці прыцягнутыя сілавікі, што выкралі і забілі 43-х студэнтаў.**


Фота www.avtonom.org

Значэнне і сенсацыйнасць навіны тлумачацца не толькі тым, што ў Мексіцы на сёння колькасць людзей, якія зніклі без вестак, налічвае каля 73 тысяч чалавек. Хутчэй за ўсё, некаторыя са зніклых сталі ахвярамі крыміналу або сілавікоў, якія звычайна адчуваюць сябе беспакаранымі.

Але значна важнейшае тое, што трагедыя 43 студэнтаў шматлікім мексіканцам знешне нагадвала падзеі на Плошчы Трох Культур у Мехіка ў кастрычніку 1968 года і іх наступствы.

Нагадаем, што ў ноч на 2 кастрычніка 1968 года паліцыя і спецназ адкрылі агонь па студэнтах, якія пратэставалі на Плошчы Трох Культур у раёне Тлатэлолька (квартал мексіканскай сталіцы). Гэта здарылася за дзесяць дзён да пачатку XIX Летніх Алімпійскіх гульняў у Мехіка, арганізацыя якіх дорага каштавала мясцоваму бюджэту. Па-сутнасці, будаўніцтва нятанных спартыўных аб'ектаў на фоне беднасці мексіканцаў і стала галоўным дэтанатарам пратэсту, які ў тую кастрычніцкую ноч жорстка задушылі.

Афіцыйнае ўрадавае тлумачэнне інцыдэнту выглядала наступным чынам: узброеныя правакатары з шэрагаў дэманстрантаў размясціліся ў будынках вакол плошчы і, прапусціўшы туды мірных пратэстоўцаў, распачалі страляніну па натоўпе ды забілі прыкладна 25–30 чалавек. У адказ сілы бяспекі папросту навялі парадак, не перавышаючы межаў самаабароны.

На самай справе, усе ведалі, што забітых было ў дзесяць разоў больш. Яшчэ прыкладна 800 чалавек былі арыштаваныя. Застаецца дадаць, што арганізатарам бойні з'яўляўся тагачасны міністр унутраных спраў Луіс Эчэверыя Альварэс, які ў 1970 годзе заняў пасаду прэзідэнта краіны.

Хаця пазней тэма падзей на Плошчы Трох Культур у кастрычніку 1968-га ўсяляк замоўчвалася і купіравалася ў афіцыёзе, паступова грамадства стала патрабаваць правядзення расследавання. Аднак толькі ў 1998 годзе, у 30-ю гадавіну страляніны ў Тлатэлолька, прэзідэнт Эрнэста Сэдыльё дазволіў кангрэсу распачаць расследаванне падзей.

У выніку ад старой урадавай версіі пра студэнтаў-правакатараў не засталося каменя на камяні. На базе шматлікіх сведчанняў стала зразумела, што страляць з будынкаў, якія атачаюць плошчу, пачалі чальцы ўзброенай групы, якую ў дакументах МУС называлі Brigada Olympica (Алімпійская брыгада). Яе штат галоўным чынам складаўся са спецназу прэзідэнцкай аховы.

Натуральна, сталі гучаць заклікі пакараць адказных за масавае забойства на Тлатэлолька. У чэрвені 2006 года хворы 84-гадовы Луіс Эчэверыя Альварэс быў абвінавачаны ў генацыдзе і змешчаны пад хатні арышт. Але хутка з яго знялі абвінавачванні ў сувязі з заканчэннем тэрміну даўнасці. Каб неяк рэабілітавацца ў вачах грамадства, у снежні 2008 года мексіканскі ўрад пастанавіў з наступнага года лічыць 2 кастрычніка днём нацыянальнай жалобы.

У 2014 годзе шмат у каго ўзнікла пачуццё дэжавю. У верасні гэтага года 43 студэнты педагагічнага каледжа ў штаце Герэра былі выкрадзеныя невядомымі і перададзеныя чальцам злачыннай групоўкі Guerreros Unidos. Паводле афіцыйных даных, затым маладыя людзі былі забітыя, а іх парэшткі — спаленыя на сметніку. Паводле афіцыйнай версіі, чальцы крымінальнай групоўкі Guerreros Unidos забілі студэнтаў, паколькі памылкова палічылі маладых людзей удзельнікамі банды-канкурэнта.

Сваякі і аднакурснікі пацярпелых адразу адкінулі афіцыйныя вынікі расследавання. Яны падазравалі, што тое злачынства было мэтанакіраваным нападам органаў дзяржаўнай бяспекі на навучэнцаў каледжа, якія вядомыя сваімі левымі апазіцыйнымі поглядамі.

З верасня 2014-га ў шматлікіх гарадах Мексікі распачаліся рэгулярныя маніфестацыі з патрабаваннем сумленнага расследавання злачынства. Удзельнікі акцый у тым ліку малявалі на сценах будынкаў лічбу 43, якая стала нефармальным сімвалам пратэсту. Тэма адразу ж палітызавалася і пачала абмяркоўвацца ў тым ліку кандыдатамі ў прэзідэнты на апошніх выбарах.

Самы незвычайны спосаб прыцягнуць увагу ўрада да праблемы зніклых студэнтаў прыдумалі жыхары вёскі, дзе знаходзіцца згаданы вышэй педагагічны каледж. У 2016 годзе яго жыхары калектыўна адмовіліся ўдзельнічаць у рэгіянальных выбарах, і да таго ж спалілі бюлетэні і скрыні на выбарчым участку.

За кошт пратэставай актыўнасці гісторыя з трагедыяй на Тлатэлолька, калі адказныя за злачынства засталіся беспакаранымі, не паўтарылася. Роўна праз шэсць гадоў пасля знікнення студэнтаў, на мінулым тыдні, былі выдадзеныя ордэры на арышт некалькіх падазраваных у злачынстве салдат і афіцэра федэральнай паліцыі. «Справядлівасць будзе!» — пракаментаваў падзею мексіканскі прэзідэнт Лопес Абрадор.

Ужо агучаныя некаторыя раней не вядомыя дэталі таго, што здарылася ўвосень 2014-га. Згодна з данымі новага расследавання, правесці паліцэйскую аперацыю і арыштаваць студэнтаў загадаў мэр горада Ігуала. Яму не падабалася, што студэнты перапынілі публічны выступ яго жонкі.

Дарэчы, некаторыя не выключаюць, што студэнты (прынамсі, большасць з іх) дасюль жывыя. Сапраўды, іх магілы і парэшткі не знайшлі. Былі знойдзеныя косткі толькі двух ахвяраў. Таму ёсць версія, што мафіёзі або ваенныя трымаюць студэнтаў у нейкім сакрэтным месцы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Некаторыя іншыя краіны-чальцы Еўрасаюза сумняваюцца ў тым, ці варта цяпер крыўдзіць санкцыямі Лукашэнку, і тым самым канчаткова штурхнуць яго ў абдымкі Расіі. Паколькі саміт у Сочы не скончыўся падпісаннем дакументаў пра паглыбленне расійска-беларускай інтэграцыі (ці яны не былі апублікаваныя), надзея на вяртанне Лукашэнкі да "шматвектарнай палітыкі" засталася. У Мінску, у сваю чаргу, спадзяюцца, што цяпер Еўропа ўстрымаецца ад рэзкіх крокаў, прыме якую-небудзь дэкларатыўную рэзалюцыю — і тым самым унясе значны ўклад уператварэнне беларускага электаральнага пратэсту ў поствыбарчую апатыю».

**Взгляд (Расія)**

«Паколькі Лукашэнка наадрэз адмаўляецца саступаць апазіцыі, яму даводзіцца звяртацца да Расіі па маральную і эканамічную падтрымку, пра што ён (і астатнія беларусы) могуць вельмі хутка пашкадаваць. Беларусь у недалёкай будучыні зразумее, што рух да інтэграцыі без лібералізацыі можа таксама прывесці да інтэграцыі без прадстаўніцтва».

**The National Interest (ЗША)**

«Уцяперашні момант нішто не паказвае на пераадоленне існуючага ў краіне статус-кво паміж дэманстрантамі (яны ладзяць масавыя пратэсты кожную нядзелю) і ўладай Лукашэнкі (гэтая ўлада ўзмацніла рэпрэсіі і абезгаловіла апазіцыю, не прадэманстраваўшы ніякай прыкметы адкрытасці). Лукашэнка не збіраецца сыходзіць, а яго стратэгічная мэта засталася ранейшай: ён хоча захаваць уладу да канца жыцця і перадаць яе спадчынніку (16-гадоваму сыну Мікалаю)».

**Le Figaro (Францыя)**

«Нягледзячы на вострыя заявы пра тое, што "пратэсты апазіцыі арганізуе Захад", Мінск таксама не спяшаецца рабіць рашучыя крокі, накшталт адкліканocc паслоў. У ідэале Беларусі хацелася б захаваць ранейшы стан знешняй палітыкі "шматвектарнасці". Прыкметай нацэленасці на гэта можна назваць, у прыватнасці, чарговую падзяку на адрас ЗША, агучаную 20 жніўня кіраўніком МЗС Беларусі, за "падтрымку Вашынгтонам суверэнітэту рэспублікі". Таму далёка не факт, што пасля заканчэння палітычнага крызісу ў Беларусі нас чакае паскарэнне інтэграцыі ў Саюзнай дзяржаве».

**Страна (Украіна)**

«Рэальнасць такая, што за эканамічную і ваенную дапамогу Пуціна Лукашэнка зможа расплаціцца толькі паступовай адмовай ад незалежнасці сваёй краіны. У 1990-я гады Беларусь і Расія ўтварылі "Саюзную дзяржаву", але ў апошнія гады Лукашэнка актыўна супраціўляўся моцнаму расійскаму ціску, накіраванаму на паглыбленне інтэграцыі на ўмовах Расіі. Цяпер жа, каб выжыць, яму патрэбная дапамога Пуціна, і адзінае, што ён можа прапанаваць наўзамен, — гэта паступовая інтэграцыя Беларусі ў Расію».

**Dagbladet (Нарвегія)**

«Цікава разглядаць інаўгурацыю Лукашэнкі ў кантэксце спробаў дзяржавы навязаць усім "афіцыйную" карціну рэчаіснасці. На самай справе, СССР рабіў гэта на працягу ўсяго свайго існавання: ён ігнараваў існуючую рэчаіснасць і ўсімі даступнымі спосабамі (аж да фізічнага знішчэння нязгодных) навязваў кожнаму сваё бачанне рэальнасці. Лукашэнка таксама жыве ў краіне, якой ужо няма».

**Газета (Украіна)**

# «Уся ўлада Устаноўчаму сходу!»

Алег НОВІКАЎ

**«Уся ўлада Устаноўчаму сходу!» — напэўна, да нядаўняга часу гэты лозунг выклікаў бо ўсмешку (такая фраза гучыць у камічнай сцэне ў фільме пра прыгоды няўлоўных мсціўцаў) або падаваўся анахранізмам. Але ў цяперашніх умовах для некаторых палітыкаў правядзенне такога сходу — не самы кепскі варыянт для перазагрузкі краіны на базе грамадзянскага кампрамісу.**




Фота www.provladimir.ru

Тым больш, што ўстаноўчы сход — не такая ўжо і архаіка, як падаецца на першы погляд. У нашым стагоддзі такія канстытуцыйныя канвенты збіраліся ў Лівіі і Тунісе. А ў Непале пасля зрынання караля, каб прыняць Канстытуцыю, давялося збіраць Устаноўчы сход аж два разы. Першая спроба аказалася правальнай праз адсутнасць кансэнсусу.

Нельга прайсці міма фенамена Канстытуцыйнай асамблеі Ісландыі, якую склікалі пасля фінансавага крызісу 2010 года. Яна складалася з 25 дэлегатаў, якія былі абраныя на дэмакратычных выбарах. У тым ліку туды трапілі актывістка руху за правы людзей з інваліднасцю, электрык, прафсаюзны лідар, бацька спявачкі Б'ёрк... У сваёй працы члены сходу павінны былі кіравацца думкамі тысячы выпадкова абраных ісландцаў ва ўзросце ад 18 да 89 гадоў. Гэтая акалічнасць дазволіла казаць, што ў Ісландыі прайшло першае ў гісторыі чалавецтва змяненне Канстытуцыі з прымяненнем прамой дэмакратыі.

Увогуле, Устаноўчы альбо Канстытуцыйны сход — гэта орган альбо сход усенародна абраных прадстаўнікоў або часткі дэпутатаў парламента, які збіраецца з мэтай распрацоўкі альбо прыняцця Канстытуцыі ці аналагічнага дакумента. Устаноўчы сход звычайна ствараецца з пэўнай мэтай. Таксама звычайна ён праводзіцца за адносна кароткі час, пасля чаго распускаецца.

Сама традыцыя прымаць Канстытуцыю паўстала ў часы Вялікай Французскай Рэвалюцыі, калі 20 чэрвеня 1789 года дэпутаты ад трэцяга саслоўя прынеслі знакамітую «клятву ў зале для гульні ў мяч», паабяцаўшы няспынна працаваць, пакуль Францыя не атрымае Канстытуцыю. Пасля няўдалых спробаў разагнаць асамблею сілай Людовік XVI быў вымушаны прызнаць яе законнай. 1 кастрычніка 1791 года ў Францыі пачаў дзейнічаць Асноўны закон, які абвяшчаў нацыю галоўнай крыніцай улады.

Французскі прыклад аказаўся прывабным. У праграмах амаль усіх рэвалюцыйных партый (у тым ліку ў Расійскай імперыі) прысутнічаў параграф пра тое, што лёс нацыі пасля рэвалюцыі павінен вызначыць Устаноўчы сход. Быў ён і ў праграме арганізацыі «Народная Воля», чальцом якой быў арганізатар замаху на цара беларус Ігнат Грынявіцкі.

Таму не дзіўна, што адным з першых рашэнняў Часовага ўраду пасля краху расійскай манархіі было абяцанне склікаць Канстытуцыйную асамблею. Цікава, што першапачаткова выбары былі прызначаныя на 17 верасня, што магло паўплываць на ход кастрычніцкай рэвалюцыі. Аднак у выніку галасавалі напрыканцы лістапада, пасля перавароту 7 лістапада. Галасавалі і ў Беларусі, адкуль абралася 38 дэпутатаў. Імі сталі 19 эсэраў, 16 бальшавікоў, 3 дэпутаты па яўрэйскім нацыянальным спісе. Усяго па краіне большасць мандатаў атрымалі правыя (370 з 715), што і абумовіла разгон сходу бальшавікамі. У дадатак матросы-анархісты забілі пару дэпутатаў-кадэтаў.

У хуткім часе пасля разгону пяцёра эсэраў — чальцоў Сходу пры падтрымцы Чэхаславацкага корпусу зрынулі ў Самары бальшавікоў і ўтварылі там Камітэт членаў Устаноўчага сходу, называючы яго адзіным легітымным органам у былой Імперыі. Праўда, скончылася гісторыя Камітэту феерычна. У 1919-м дэпутатаў Устаноўчага сходу канчаткова разагнаў галоўны лідар антыбальшавісцкіх сілаў Аляксандр Калчак.

Паколькі імперыя развалілася, на яе рэштках пачалі імкліва нараджацца новыя дзяржавы, Канстытуцыі якіх таксама прымалі ўстаноўчыя сходы. Такія мерапрыемствы былі ў Грузіі, Эстоніі і нават на тэрыторыі Далёкага Усходу. Неардынарнай атрымалася сітуацыя ва Украіне, якая абірала свой Канстытуцыйны сход у студзені 1918-га на фоне наступу бальшавікоў. У выніку вызначылі толькі 171 дэпутата з 301 і вырашылі ад ідэі пакуль адмовіцца.

Не паспелі праз калізіі інтэрвенцый і грамадзянскай вайны правесці Устаноўчы сход і актывісты БНР. Затое беларусы былі прадстаўленыя на польскім Устаноўчым Сейме 1919–1922 гадоў (дарэчы, гэта быў першы Сейм пасля гродзенскага Сейму 1793 года). Гэты Сейм быў вельмі незвычайны, паколькі на той час Польшча не мела выразных межаў, і была ўцягнутая ў тэрытарыяльныя канфлікты. Як вынік, колькасць дэпутатаў увесь час змянялася.

Спачатку абралі дэпутатаў на падкантрольных польскай дзяржаве тэрыторыях. Да іх далучылася група польскіх дэпутатаў парламента Германіі і парламента Аўстра-Венгрыі. У наступныя месяцы, калі палякі прасунуліся на ўсход, былі праведзеныя выбары ў тым ліку ў Беластоцкім рэгіёне. Нарэшце, у 1922 годзе ў склад Сейма ўвайшлі 20 дэпутатаў ад Сярэдняй Літвы, фіктыўнай дзяржавы, якая існавала на тэрыторыях сучаснай Літвы і Беларусі. Па выніках працы Сейм прыняў так званую «Сакавіцкую Канстытуцыю».

Як бачым, тэма ўстаноўчых сходаў для беларусаў усё ж не такая экзатычная, хаця яе тэхнічная рэалізацыя, відавочна, патрабуе шмат папярэдняй працы — у тым ліку ў выбарчым заканадаўстве. Нарэшце, варта дадаць, што часам ідэю ўстаноўчых сходаў эксплуатуюць аўтарытарныя лідары. У 2017 годзе Нікалас Мадура стварыў Венесуэльскую Канстытуцыйную асамблею з чальцоў лаяльных яму партый, які прыдумляюць яму новую версію Канстытуцыі. Элементы пароды на Устаноўчую асамблею мы дакладна пабачым на Усебеларускім народным сходзе, які плануецца на студзень, і які, як піша афіцыёз, абмяркуе папраўкі ў Канстытуцыю.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмі Коні Барэт



Усе прыхільнікі Дэмпартыі не ў захапленні ад рашэння Трампа высунуць Барэт на пасаду чальца Вярхоўнага суда — вышэйшай судовай інстанцыі ЗША, ад якой залежыць вельмі многае, і, можа быць, нават вынік лістападаўскіх прэзідэнцкіх выбараў. Барэт наўрад ці вынесе рашэнне, нявыгаднае рэспубліканцам.

Пра гэта лепш за ўсялякія словы сведчыць яе біяграфія. Барэт — заўзятая каталічка, маці семярых дзяцей. Па сваіх перакананнях яна належыць да кансерватыўнай часткі Рэспубліканскай партыі. Нарэшце, яна — пераканаў крытык абортаў, выступае за абмежаванне нелегальнай іміграцыі і падзяляе тое, што ў Амерыцы называецца хрысціянскімі каштоўнасцямі. Каб неяк нейтралізаваць план Трампа, дэмакраты разгарнулі інфармацыйную кампанію, у аснове якой рэлігійныя погляды кандыдаткі. Так, The New York Times наогул сцвярджае, што яе рэлігія несумяшчальная з амерыканскімі каштоўнасцямі.

Ці атрымаецца дэмакратам дыскрэдытаваць Барэт, стане вядома 12 кастрычніка, калі адбудзецца галасаванне ў Сенаце. Улічваючы, што, згодна з законам, суддзя прыступае да выканання сваіх абавязкаў неадкладна пасля зацвярджэння, атрымліваецца, што Барэт будзе ў складзе Вярхоўнага суда ў перыяд прэзідэнцкіх выбараў, вынік якіх непрадказальны з-за завочнага нежадання супернікаў прызнаваць сябе пераможанымі.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



У той час, як беларускія ўлады толькі абяцаюць канстытуцыйную рэформу, кіраўнік Туркменістана актыўна карэктуе мясцовы Асноўны закон. Вышэйшы прадстаўнічы орган Туркменістана ўхваліў унясенне змяненняў у Канстытуцыю краіны.

У адпаведнасці з законам, які ўнёс Бердымухамедаў, Меджліс (парламент) краіны з гэтага часу будзе двухпалатным і стане называцца Нацыянальны Савет. Акрамя ніжняй палаты Меджліса ў краіне з'явіцца яшчэ і сенат Халк Маслахаты — Народная рада. Да сённяшняга дня аднапалатны Меджліс Туркменістана складаўся з 125 дэпутатаў, якія абіраліся тэрмінам на 5 гадоў па аднамандатных акругах.

Сэнс сваёй рэформы Бердымухамедаў тлумачыць так: «Мы лічым, што прыняцце Канстытуцыйнага закона будзе яшчэ адным важным крокам на шляху дэмакратызацыі нашай краіны. Я цвёрда ўпэўнены, што Нацыянальны Савет Туркменістана ператворыцца ў агульнанацыянальны прадстаўнічы орган, які аб'ядноўвае наш народ і накіроўвае да высокіх мэтаў!» З улікам таго, што ўсе дэпутаты ў краіне фактычна прызначаюцца прэзідэнтам, тлумачэнне Бердымухамедава выклікае пэўныя сумневы. Можна меркаваць, што мэта рэформы — дадатковае замацаванне прэзідэнтам асабістай улады.

### Альберта Фернандэс



Лідар партыі пераністаў, прэзідэнт Аргенціны, які, паводле мясцовых законаў, таксама кіруе ўрадам, здзівіў увесь свет нечаканым рашэннем. Міністры ўраду вырашылі запоўніць па меншай меры адзін працэнт дзяржаўных пасад трансвеститамі, транссексуаламі і трансгендарамі. «Кожны трансвестыт, транссексуал і трансгендар мае права на годную працу з роўнымі і здавальняючымі ўмовамі, а таксама права на абарону ад беспрацоўя і дыскрымінацыі па прыкмеце яго сексуальнай ідэнтычнасці або знешнасці», — гаворыцца ва ўрадавай пастанове.

Указ таксама прадугледжвае рэзерваванне ў будучыні новых працоўных месцаў для прадстаўнікоў згаданых вышэй катэгорый. Чыноўнікаў на месцах абавяжуць паведамляць пра ўсе вакансіі, што падыходзяць для сексуальных меншасцяў, у Міністэрства па справах жанчын, гендарных пытаннях і разнастайнасці. Ва ўрадзе кажуць, што новы закон скончыць з практыкай, калі прастытуцыя была адзіным спосабам для трансгендарных людзей зарабляць на жыццё. Зрэшты, рэвалюцыйны ўказ, які ўжо падпісаны прэзідэнтам, павінен быць зацверджаны Кангрэсам.

# Рэвалюцыя «Салідарнасці». Гісторыя, якую варта ведаць беларусам

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Калі беларусы пачалі змагацца за дэмакратычныя змены ў сваёй краіне, значная частка палякаў шчыра падтрымала гэты працэс. У сацыяльных сетках і медыярэсурсах нашы заходнія суседзі актыўна віталі беларусаў і адзначалі, што Польшчы таксама давялося прайсці праз падобныя падзеі. Гаворка ідзе пра барацьбу за дэмакратычныя змены на працягу 1980-х гадоў.**



Міліцыя збівае людзей, ПНР

## Усё пачалося на Поўначы

У жніўні 1980 года Польшчу ахапіла хваля забастовак, якія фактычна ўзніклі з-за росту коштаў на тавары. 14 жніўня 1980 года распачаўся «страйк» на суднаверфі ў Гданьску, які быў арганізаваны «Свабоднымі прафсаюзамі ўзбярэжжа». Кіраваў забастоўкай малады працоўны Пётр Малішэўскі. У гэты ж дзень на суднаверф прыехаў адзін з лідараў тагачасных польскіх пратэстаў Лех Валенса. Працоўныя патрабавалі ўзнаўлення на працы звольненых калегаў, стварэння помніка ахвярам падзей снежня 1970 года, калі камуністычныя ўлады Польскай народнай рэспублікі крывава падавілі маніфестацыі польскіх працоўных, выкліканыя ростам коштаў на прадукты харчавання. Хутка на суднаверфі з'явіліся дэлегацыі іншых прадпрыемстваў, якія таксама баставалі. У выніку быў створаны Аб'яднаны страйкавы камітэт на чале якога стаў Лех Валенса. Тады ж гімнам польскіх працоўных стала песня «Муры» ў выкананні Яцэка Качмарскага.

Што ж патрабавалі польскія пратэстоўцы? Перш за ўсё, прызнання з боку дзяржавы незалежных прафсаюзаў і дазволу на іх развіццё. Важным момантам было патрабаванне свабоды слова і свабоднага доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Польскія грамадзяне актыўна дамагаліся спынення гвалту з боку «сілавікоў», а таксама правядзення эканамічных рэформаў.

## «...На выпадак аказання ваеннай дапамогі ПНР»

Афіцыйныя медыя спрабавалі схаваць праўду пра пратэсты, аднак польскія грамадзяне шукалі іншыя крыніцы інфармацыі, і такой стала радыёстанцыя «Свабодная Еўропа», якая працавала ў Мюнхене. Да 21 жніўня 1980 года забастоўкі ахапілі ўсю Польшчу. 28 жніўня быў падрыхтаваны праект пастановы ЦК КПСС за подпісам Андрэя Грамыкі, Юрыя Андропава, Дзмітрыя Усцінава, Канстанціна Чарненкі, Міхаіла Суслава.

Вось што было ў гэтым дакуменце: «Абстаноўка ў ПНР працягвае заставацца напружанай. Страйкавы рух набывае агульнадзяржаўны маштаб. Улічваючы абстаноўку, якая складваецца, Міністэрства абароны просіць для стварэння групы войскаў на выпадак аказання ваеннай дапамогі ПНР дазволіць у першую чаргу прывесці з 18.00 29.08 у поўную баявую гатоўнасць тры танкавыя (Прыбалтыйская вайсковая акруга — 1, Беларуская вайсковая акруга — 2) і адну мотастралковую (Прыкарпацкая вайсковая акруга) дывізіі. На даўкамплектаванне гэтых дывізій паклікаць з народнай гаспадаркі па 25 тысяч ваеннаабавязаных і 6 тысяч аўтамабіляў, у тым ліку 3 тысячы на замену машын, якія накіраваліся з гэтых войскаў на ўборку ўраджаю, без якіх дывізіі не змогуць цалкам паднясць свае рухомыя запасы. Неабходнасць даўкамплектавання дывізій за кошт рэсурсаў народнай гаспадаркі выклікаецца тым, што яны ў мірны час утрымліваюцца ў скарочаным складзе, і для паспяховага выканання задач пры ўводзе іх на тэрыторыю ПНР патрабуецца папярэдне правесці з імі баявое зладжванне на працягу 5–7 сутак».

Нічога не нагадвае? З пачатку беларускіх пратэстаў у 2020-м незалежнае беларускае грамадства непакоіць фактар расійскай вайсковай пагрозы па прынцыпе гібрыдных агрэсій, якія Крэмль ажыццявіў супраць Грузіі ў 2008 годзе ды ў 2014 годзе супраць Украіны. Польшча ў пачатку 1980-х была ў кроку ад савецкай узброенай інтэрвенцыі. Аднак Крэмль свае дывізіі «на падтрымку народнай уладзе» так і не накіраваў.

## Войска на вуліцах

Эканамічнае становішча ў ПНР працягвала пагаршацца, была ўведзена карткавая сістэма на прадукты. У сакавіку 1981 года ў Быдгашчы спецыяльны атрад польскай народнай міліцыі «Zomo» (аналаг беларускага АМАПу) жорстка збіў чальцоў прафсаюза «Салідарнасць» Яна Рулеўскага, Марыюша Лабентовіча ды Міхала Бартошча. У адказ на гэта адбылася чарговая ўсеагульная забастоўка. У жніўні 1981 года кіраўнік СССР Леанід Брэжнеў у лісце, накіраваным першаму сакратару ЦК Польскай аб'яднанай працоўнай партыі (ПАПР) Станіславу Каню, адзначаў: «Нас інфармуюць, што цяпер у краіне ледзь не паўсюдна ўзмацняецца разгул антысаветызму. Далей, кажуць, быццам урад гатовы саступіць патрабаванням "Салідарнасці" аб перадачы прадпрыемстваў працоўным калектывам, то-бок, фактычна, у групавую ўласнасць. З чым жа тады застанецца дзяржава? Бо гэта разбурэнне эканамічнай асновы сацыялізму».

У верасні-кастрычніку 1981 года ў ПНР адбыўся Першы агульны з'езд дэлегатаў прафсаюза «Салідарнасць», на якім Лех Валенса быў абраны кіраўніком гэтай апазіцыйнай арганізацыі. Гэты факт асабліва напаліў сітуацыю. Крэмль ціснуў на сваіх людзей у Варшаве. Урэшце, 13 снежня 1981 года ў Польшчы было ўведзена ваеннае становішча. Гэта азначала, што «Салідарнасць» аказалася па-за законам, а яе кіраўнікоў арыштавалі. Спецпадраздзяленні польскай народнай міліцыі брутальна разганялі мітынгі працоўных і затрымлівалі тых, хто выказваўся за працяг забастовак. 16 снежня 1981 года падраздзяленні міліцыі выкарысталі зброю падчас маніфестацыі на шахце «Вуек». Тады загінулі 9 шахцёраў, а 21 працоўны быў паранены. 17 снежня 1981 года міліцыя адкрыла агонь па пратэстоўцах у Гданьску. Адзін чалавек загінуў, а некалькі атрымалі раненні. Напрыканцы 1981 года ўсе забастоўкі спыніліся.

## «Контррэвалюцыя не зламаная»

Пасля ўвядзення ваеннага становішча ЗША ўвялі супраць ПНР эканамічныя санкцыі, якія яшчэ пагоршылі сітуацыю ўнутры краіны. Аднак людзі працягвалі выходзіць на пратэсты. Іх у гэтым падтрымліваў каталіцкі касцёл. Асабліва моцныя пратэсты адбыліся падчас святкавання забароненага камуністамі свята Канстытуцыі 3 траўня. Спецпадраздзяленні міліцыі жорстка разганялі мітынгоўцаў. У жніўні 1982 года хваля пратэстаў узмацнілася.

«Што тычыцца паслаблення рэжыму ваеннага становішча, у тым ліку вызвалення большасці інтэрнаваных, то я так разумею, што вы імкняцеся забяспечыць сабе больш шырокую падтрымку насельніцтва, паўплываць на Захад. У якасці свайго роду авансу вы, відавочна, сказалі і пра магчымасць прыпыніць ваеннае становішча да канца года, калі абстаноўка будзе паляпшацца. Можна толькі пажадаць, каб так яно і было.

Але вядома, каб пазбегнуць горшага, трэба заставацца гатовымі і на выпадак неспрыяльнага ходу падзей. Контррэвалюцыя не зламаная. Яна збірае сілы ў падполлі і працягвае рабіць небяспечныя вылазкі. Таму, мне здаецца, адмяніць дзеянне ваеннага становішча акажацца магчымым не тады, калі контррэвалюцыя проста заціхне. Цішыня можа быць зманлівай. Вам патрэбна цвёрдая ўпэўненасць, што контррэвалюцыя зламаная і не здолее зноў падняцца. А гэта патрабуе, як мінімум, забароны "Салідарнасці" і, вядома, сур'ёзнага ўмацавання баяздольнасці партыі. Без гэтага немагчыма здаровае развіццё», — адзначаў у той час у размове з Войцехам Ярузельскім кіраўнік СССР Леанід Брэжнеў.

У кастрычніку 1982 года пачалася чарговая хваля забастовак, а ў лістападзе таго ж года ўлады выпусцілі з лагера для інтэрнаваных Леха Валенсу. Разам з тым спецслужбы арганізавалі аблавы на падпольных дзеячаў руху «Салідарнасць», у выніку чаго было рэпрэсавана каля 10 тысяч чалавек.

## Ад нобелеўскай прэміі міра да незалежнасці

Адным з сімвалаў барацьбы палякаў супраць камуністычнай сістэмы сталі шматлікія насценныя малюнкі ды графіці. Яны былі паўсюль: на тратуарах, сценах, платах. 22 ліпеня 1983 года было адменена ваеннае становішча.

Вось як у лістападзе 1983 года кіраўніка ПНР Войцеха Ярузэльскага інструктаваў яго савецкі калега Юрый Андропаў: «Супернік не мае намеру адступаць. Проціборства будзе з ім жорсткае. Падпольныя структуры, якія арганізацыйна аформіліся, самаадвольна не знікнуць. Відавочна, што без рашучага, радыкальнага стрымання антысацыялістычнай дзейнасці ва ўсіх яе формах і разам з тым гнуткасці ў адносінах з асобнымі пластамі грамадства цяжка чакаць перамогі на выбарах».

Аднак працэс барацьбы польскага грамадства супраць камунізму немагчыма было спыніць. Увосень 1983 года ў ПНР было створана Агульнапольскае аб'яднанне прафесійных саюзаў, якое хутка аб'яднала каля 5 мільёнаў польскіх грамадзян. У снежні 1983 года жонка Леха Валенсы атрымала за свайго мужа ў Осла Нобелеўскую прэмію міра. Сам Валенса не атрымаў пашпарт, які б дазволіў выехаць за мяжу.

У кастрычніку 1984 года камуністычныя спецслужбы забілі ксяндза Ежы Папялушку, які прытрымліваўся антыкамуністычных пазіцый. Праз год адбыліся гучныя судовыя працэсы супраць дзеячаў падпольнай «Салідарнасці» ў Гданьску. У ліпені 1986 года камуністычныя ўлады абвясцілі амністыю для палітычных вязняў, і больш за 40 чалавек выйшлі на свабоду. Падчас перабудовы Крэмль ужо не мог цалкам кантраляваць працэсы дэмакратызацыі, якія адбываліся ў ПНР. «Салідарнасць» паступова легалізавалася.

У красавіку 1988 года пачалася новая хваля агульнапольскіх забастовак, што ўрэшце прывяло да перамоваў уладаў ды пратэстоўцаў у рамках «круглага стала». У снежні 1988 года быў створаны Грамадскі камітэт, які пачаў рыхтаваць прапановы апазіцыі да ўладаў. 6 лютага 1989 года распачаліся перамовы, якія працягваліся да 5 красавіка. У выніку было прынята рашэнне аб поўнай легалізацыі «Салідарнасці» ды правядзенні свабодных выбараў у Сенат ды Сейм.

У выніку выбараў большасць польскіх грамадзян падтрымала кандыдатаў ад апазіцыі. 24 жніўня 1989 года новым прэм'ер-міністрам стаў Тадэвуш Мазавецкі — першы некамуністычны прэм'ер Польшчы з моманту заканчэння Другой сусветнай вайны. Пры гэтым пасаду прэзідэнта працягваў займаць камуніст Войцех Ярузэльскі (да снежня 1990 года). Хутка пад кіраўніцтвам міністра фінансаў Лешка Бальцаровіча быў распрацаваны план эканамічных рэформ, які ўвайшоў у гісторыю як «шокавая тэрапія».

29 снежня 1989 года Сейм прыняў змены ў Канстытуцыю краіны, паводле якой краіна была перайменаваная ў Рэспубліку Польшча, была адменена «кіруючая роля» Польскай аб'яднанай працоўнай партыі, а герб краіны зноў, як і ў міжваенны перыяд, атрымаў карону. Так скончыўся доўгі — ці не дваццацігадовы — шлях барацьбы польскага народа за дэмакратыю і незалежнасць сваёй краіны.

# Гродна як выклік сістэме

## Насуперак усяму «Нёман» рвецца да медалёў чэмпіянату

Сяргей КАЙКО

**Калі аднойчы пра беларускія падзеі 2020 года здымуць фільм, адна з сюжэтных ліній абавязкова павядзе гледача на захад краіны. У бок 350-тысячнага Гродна — горада, дзе пульсацыі вен падчас пратэстаў былі гарачымі, зацятымі і нястрымнымі. Дзе за некалькі месяцаў мясцовыя жыхары пражылі цэлае жыццё, красамоўна паказаўшы ўладзе сваю грамадзянскую пазіцыю, нацыянальную свядомасць і востры палітычны тэмперамент.**



Фота прэс-службы ФК «Нёман»

Гродзенскі «Нёман»: пяць крокаў да цуда

Гэта тут, на беразе Нёмана, супраць афіцыйных вынікаў выбараў пратэставалі дзясяткі тысяч чалавек. І рабілі гэта так упэўнена і пераканаўча, што гарадскія вертыкальшчыкі палохаліся і саступалі. Так, у жніўні ўлады дазволілі ў Гродна правядзенне мітынгаў на цэнтральных плошчах, выпусцілі на волю ўсіх затрыманых і абяцалі прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці эфір мясцовага тэлеканалу.

Гэта тут начальнік абласной міліцыі выбачаўся перад людзьмі за гвалт з боку сваіх падначаленых, а на буйным прадпрыемстве «Гродна Азот» узнікла адна з першых у краіне забастовак. Пад уплывам такіх турбулентных працэсаў нервова заварушыўся Мінск. Не прайшло і двух тыдняў пасля выбараў, а Аляксандр Лукашэнка ўжо паспешліва тушыў пажар і мяняў мясцовае кіраўніцтва — замест Уладзіміра Краўцова новым гродзенскім губернатарам стаў былы міністр аховы здароўя і тутэйшы ўраджэнец Уладзімір Каранік.

Гэта тут, як і ў Мінску, за перамены выступалі цэлымі прафесійнымі супольнасцямі і працоўнымі калектывамі. Медыкі, рабочыя, бізнесоўцы... Гродзенскі драматычны тэатр прыпыніў спектаклі на нявызначаны час. Яго акцёраў затрымлівалі на мітынгах, калектыў у сувязі з гэтым пратэставаў і залучыўся падтрымкай купалаўцаў. Ладзяць акцыі студэнты мясцовых універсітэтаў — іх таксама затрымліваюць, але хлопцы і дзяўчаты не баяцца.

На гэтым фоне свайго кшталту пратэст абазначае і тутэйшы футбол. Так, больш фігуральна, але красамоўных рысаў і сімвалічных паралеляў хапае. Гродзенскі «Нёман», пра які мы пазітыўна пісалі яшчэ ў жніўні, не губляе тэмп і ўпарта набліжаецца да сенсацыйных медалёў чэмпіянату Беларусі.

У мінулым туры нёманцы здабылі найважнейшую перамогу — вырвалі тры балы ў Жодзіне і скінулі з хваста тамтэйшае «Тарпеда». Цяпер заходняя каманда займае ў табліцы другі радок — паміж заможнымі БАТЭ і «Шахцёрам», да фінішу першынства застаецца пяць тураў.

У чым гродзенскі футбольны пратэст? Ды вось у гэтым. Небагаты «Неман» падрывае асновы, паказваючы, што ў футбол гуляюць не грошы, бюджэты, трансферы і зоркі. А элементарная самаадданасць і прага да поспеху. Дзе той Брэст, дзе гульцы маюць астранамічныя зарплаты? Дзе другое «Дынама» — мінскае, якім апякуецца спартыўны дзяржапарат? Шукайце іх недзе ў сярэдзіне пелетону — далёка за спінай Гродна, які ўпэўнена адстойвае свае правы на маленькае шчасце.

Эстэтыку гродзенскага непадпарадкаванне падкрэсліваюць і паводзіны галоўнага трэнера. Ігар Кавалевіч рэгулярна крытыкуе футбольныя ўлады, пастаянна — нібыта за ўдзел у чымсьці несанкцыянаваным — атрымлівае штрафы і дыскваліфікацыі. І нават нядаўна сказаў: «Я магу выказаць здагадку, што “Нёман” не ўпісваецца ў канцэпцыю федэрацыі. Пасля стольких нашых перамог і бяспройгрышных матчаў, відаць, мы там лішнія...»

Але заўзятары — і не толькі гродзенскія — упэўнена скажуць: не, дакладна не лішнія. Наш футбол надта забранзавеў у старых стэрэатыпах. Што ні год, што ні сезон — на п'едэстале знаёмыя ўсё твары. БАТЭ, «Шахцёр», адно ці другое «Дынама»... Як у тым кіно — у каго грошы, у таго і сіла.

«Нёман» у гэтым сэнсе паказвае многае — прыклад, прэцэдэнт, надзею. Ён — быццам глыток свежага паветра, які так неабходны беларускаму чэмпіянату і які так важна захаваць.

Таму заўзеюць за гарэзлівую каманду Кавалевіча шматлікія прыхільнікі па ўсёй, трэба думаць, краіне. І, дарэчы, калі гродзенская футбольная мара спраўдзіцца, гэта будзе святам салідарнасці каманды і яе заўзятараў — тых самых студэнтаў, рабочых, медыкаў і іншых. Бо мы хоць часта крытыкавалі беларускіх футбалістаў за маўклівасць і слаба акрэсленую грамадзянскую пазіцыю, а, напрыклад, гульцы «Нёмана» сябе ўсё-ткі паказалі. У вядомым відэа з асуджэннем гвалту прынялі ўдзел ажно дзевяць з іх — Дзмітрый Дудар, Валерый Жукоўскі, Павел Забелін, Сяргей Курганскі, Артур Слабашэвіч, Яўген Ляшко, Раман Пасевіч, Уладзіслаў Яцкевіч, Дзмітрый Іваноў.

Медалі чэмпіянату стануць для хлопцаў узнагародай у тым ліку і за гэта...

### Чэмпіянат Беларусі

ВЫНІКІ 25-га ТУРА: 26.09. ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:1 (Мавату, 39 — Янане, 80). ГАРАДЗЕЯ — СЛАВІЯ (Мазыр) — 1:1 (Пазняк, 62 — Жук, 77). ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — НЁМАН (Гродна) — 0:1 (Марушыч, 47+). БАТЭ (Барысаў) — ДЫНАМА (Брэст) — 2:4 (Няхайчык, 70, Міліч, 79 — Сядзько, 5, Савіцкі, 49, Крывец, 91+, 94+). 27.09. ДЫНАМА (Мінск) — ВІЦЕБСК — 1:0 (Шыкаўка, 74, з пенальці). РУХ (Брэст) — СЛУЦК — 5:0 (Садоўскі, 11, Нікіфарэнка, 35, Багамольскі, 85, 89, Канцавы, 90). 28.09. МІНСК — СМАЛЯВІЧЫ — 2:1 (Ал.Васільеў, 60, з пенальці,Ануфрыеў, 72 — Ханкевіч, 16).

Матч БЕЛШЫНА (Бабруйск) — ШАХЦЁР (Салігорск) перанесены праз каронавірус.

**26-ты ТУР.** 16.10. СЛУЦК — МІНСК. 17.10. СЛАВІЯ — БЕЛШЫНА, ВІЦЕБСК — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ, НЁМАН — ГАРАДЗЕЯ. 18.10. СМАЛЯВІЧЫ — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ, ІСЛАЧ — БАТЭ, ШАХЦЁР — ДЫНАМА (Мінск), ДЫНАМА (Брэст) — РУХ.

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ | 25 | 15 | 4 | 6 | 54-28 | 49 |
| 2. | Нёман | 25 | 14 | 5 | 6 | 34-22 | 47 |
| 3. | Шахцёр | 24 | 13 | 7 | 4 | 43-14 | 46 |
| 4. | Іслач | 25 | 13 | 3 | 9 | 39-35 | 42 |
| 5. | Тарпеда-БелАЗ | 25 | 11 | 8 | 6 | 39-31 | 41 |
| 6. | Рух | 25 | 10 | 9 | 6 | 46-27 | 39 |
| 7. | Дынама Бр | 23 | 12 | 2 | 9 | 43-30 | 38 |
| 8. | Дынама Мн | 24 | 11 | 3 | 10 | 28-21 | 36 |
| 9. | Энергетык-БДУ | 24 | 10 | 5 | 9 | 34-35 | 35 |
| 10. | Віцебск | 25 | 7 | 10 | 8 | 24-30 | 31 |
| 11. | Мінск | 24 | 9 | 4 | 11 | 33-43 | 31 |
| 12. | Славія | 23 | 7 | 7 | 9 | 31-42 | 28 |
| 13. | Гарадзея | 25 | 5 | 6 | 14 | 21-42 | 21 |
| 14. | Слуцк | 23 | 6 | 3 | 14 | 25-45 | 21 |
| 15. | Белшына | 24 | 5 | 5 | 14 | 27-45 | 20 |
| 16. | Смалявічы | 24 | 3 | 5 | 16 | 24-55 | 14 |

### «Хачу, каб мая краіна магла гарантаваць мне абарону»

Беларуская тэнісістка Вера Лапко на сваёй старонцы ў Instagram.

«Ужо не першы раз разважаю пра тое, у якіх месцах мне б хацелася застацца і жыць. Паколькі я часта падарожнічаю, маю магчымасць убачыць шмат розных гарадоў і краін. Нейкія месцы падабаюцца, а дзесьці катэгарычна не хацелася б жыць.

Амерыка — наогул не для мяне ... людзі, менталітэт, ежа (што вельмі важна!), клімат — не мае. Азія — іншы свет, Аўстралія — далёка. Вось Еўропа — іншая справа, там і клімат, і людзі, і ежа, і менталітэт больш-менш мне блізкія. Але ўсе роўна штосьці не тое...

Беларусь перажывае (дый перажывала) цяжкія часы. Але яна назаўжды застанецца маім домам, маёй Радзімай, маім месцам сілы, як кажуць. У ёй усё сваё: і прырода, і людзі, і ўспаміны з дзяцінства, і любімыя кавярынькі ў Мінску, і прыгожыя старадаўнія вулачкі ў Гродне, і найпрыгажэйшыя паркі па ўсёй краіне. Туды мне заўсёды хочацца вяртацца, нягледзячы ні на што. Тут жывуць мае родныя, мама, брат, сябры, людзі, якіх я ведаю гадамі. Там я ведаю амаль кожную вуліцу, амаль кожны куток.

І жыць я хачу таксама ў сябе на радзіме — у Беларусі. Не хачу думаць пра тое, дзе мне знайсці месца жыхарства больш небяспечнае, больш камфортнае. Я хачу, каб камфортна і бяспечна мне было ў маім родным доме, у Мінску. Я не хачу баяцца за сябе, за маіх любых. Я хачу, каб мая краіна магла гарантаваць мне абарону, калі я ў ёй буду мець патрэбу, а не наадварот.

Хіба я шмат жадаю?» — напісала Вера Лапко.

### «Калі вы дзейнічаеце згодна з законам, то чаму хаваеце твары?»

Знаныя атлеты са Свабоднага аб'ядання спартоўцаў Беларусі запісалі зварот да сілавікоў, якія з закрытымі тварамі хапаюць пратэстоўцаў і сведчаць супраць затрыманых у судах.

«Я б хацеў нагадаць пра тых, хто хаваўся і хацеў сысці ад пакарання за свае зверскія ўчынкі, уцякаючы і хаваючыся ўсё жыццё на іншых кантынентах. Тады яны былі маладымі, моцнымі і лютымі. Гэта карнікі безабаронных вязняў, паслугачы гітлераўскіх лагераў. Яны думалі, што іх ніколі не знойдуць і не пакараюць. Яны мянялі імёны і прозвішчы, рабілі пластычныя аперацыі, хаваліся на іншым кантыненце — у Аргенціне і Чылі. Увесь свет бачыў, як у суды, на інвалідных вазках, прывозілі паўжывых, з выгляду бяскрыўдных гаротных старых. Я рызыкну дапусціць, што вы чулі і ведаеце пра тых карнікаў, пра якіх мы вам нагадалі. Калі вы дзейнічаеце паводле закону, то чаму вы хаваеце твары і баязліва бяжыце, як толькі з вас зрываюць маску?» — гаворыцца ў звароце.

У запісе звароту ўзялі ўдзел: Васіль Хамутоўскі, чэмпіён Беларусі ў футболе; Андрэй Краўчанка, заслужаны майстар спорту ў лёгкай атлетыцы, срэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў, чэмпіён Еўропы, шматразовы прызёр чэмпіянатаў свету; Аляксандра Раманоўская, заслужаны майстар спорту ў фрыстайле, чэмпіёнка свету 2019 года; Артур Удрыс, трохразовы чэмпіён Беларусі ў валейболе, гулец нацыянальнай зборнай; Алена Леўчанка, бронзавы прызёр Чэмпіянату Еўропы ў баскетболе; Канстанцін Якаўлеў, галоўны трэнер гандбольнага клубу «Віцязь», майстар спорту, шматразовы чэмпіён і ўладальнік кубку Беларусі; Ягор Мешчаракоў, майстар спорту ў валейболе, чэмпіён Еўропы, Беларусі і Украіны, пяціразовы ўладальнік прызу «Найлепшы гулец Беларусі».

### Аляксандра Герасіменя выставіла на аўкцыён сваю форму

Вядомыя спартоўцы развітваюцца з узнагародамі і асабістымі рэчамі, каб дапамагчы пацярпелым калегам.

Плыўчыха Аляксандра Герасіменя выставіла на аўкцыён форму, якую надзявала на цырымонію ўзнагароджання на Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанэйра ў 2016 годзе — там яна ўзяла бронзавы медаль у заплыве на 50 метраў вольным стылем.

Стартавая цана была крыху большай за 100 долараў, цяпер лот ужо перавышае 1000. Грошы Аляксандра перадасць у дапамогу пацярпелым спартоўцам, напісала яна ў «Інстаграме».

Раней на аўкцыён свае медалі выставіў славуты лыжнік Сяргей Далідовіч, а самая вядомая беларуская баскетбалістка Алена Леўчанка — красоўкі.

Многія атлеты, якія падпісалі калектыўна зварот з палітычнымі патрабаваннямі да ўладаў, церпяць ад ціску з боку чыноўнікаў. Некаторых ужо звольнілі з дзяржаўных структураў, да якіх яны прыпісаны, а таксама вывелі са складу нацыянальных зборных.

# БагатаДата

**На тыдні футбольныя фанаты маюць добрую нагоду для свята — 60 гадоў спаўняецца жывой легендзе беларускага футболу Юрыю Пунтусу. Але круглая дата не толькі ў яго.**

### 3 кастрычніка

**1930.** У сяле Архангельскае Алтайскага краю ў Расіі нарадзіўся беларускі кампазітар Уладзімір Чараднічэнка. У сярэдзіне 1960-х гадоў працаваў дырыжорам-кансультантам эстрадных калектываў Белдзяржфілармоніі.

### 4 кастрычніка

**Дзень настаўніка, Сусветны дзень абароны жывёлаў.**

**1750.** У Віцебску нарадзіўся беларускі і польскі паэт, драматург Францішак Князнін. Аўтар зборнікаў «Байкі» ды «Эротыкі». Опера «Цыганы» на лібрэта Князніна ставілася ў Слонімскім тэатры Агінскага.

**1940.** У Мінску нарадзіўся рэжысёр і кінааператар Анатоль Алай. Народны артыст Беларусі. Уладальнік найвышэйшай узнагароды нацыянальнага кіно — залатога медаля Юрыя Тарыча. Фільмы: «Чорны крумкач», «Чарнобыльскі крыж», «Дзевяноста шостая восень».

### 5 кастрычніка

**Сусветны дзень архітэктуры.**

### 6 кастрычніка

**Дзень архівіста.**

**1745.** У Варшаве нарадзіўся Францішак Смуглевіч, польскі мастак, заснавальнік беларускай і літоўскай нацыянальнай школ жывапісу. Яго карціны можна ўбачыць у Нацыянальным музеі ў Варшаве (напрыклад, «Прысяга Касцюшкі») ды Віленскай карціннай галерэі («Смерць Віргініі»).

**1950.** У Мінску нарадзіўся артыст балету, харэограф Юрый Траян. Працаваў дырэктарам Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай вучэльні, галоўным балетмайстрам, а таксама мастацкім кіраўніком балета Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра балета. Пастаноўшчык балетаў «Крылы памяці», «Бахчысарайскі фантан», «Трыстан і Ізольда», «Князь Вітаўт».

### 7 кастрычніка

**1905.** У горадзе Нароўля на Гомельшчыне нарадзіўся вучоны-батанік Мікалай Смольскі. 20 гадоў працаваў дырэктарам Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук БССР.

### 8 кастрычніка

**Сусветны дзень зроку.**

**1960.** У вёсцы Цівалі (цяпер у межах Мінску) нарадзіўся адзін з самых вядомых беларускіх футбольных трэнераў Юрый Пунтус. Менавіта Пунтус, што ачоліў барысаўскі БАТЭ ў 1996 годзе, вывеў клуб у Вышэйшую лігу і ўжо ў 1999-м выграў з ім залатыя медалі. Трэніраваў маладзёжную і нацыянальную зборныя Беларусі. Пяць разоў прызнаваўся лепшым футбольным трэнерам Беларусі.

### 9 кастрычніка

**Сусветны дзень пошты.**

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**





Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Феномены Дуж-Душэўскага

Алесь КІРКЕВІЧ

**Бел-чырвона-белыя сцягі сталі сімвалам пратэсту і вольнай Беларусі. А што вы ведаеце пра чалавека, які прыдумаў канцэпцыю сучаснага бел-чырвона-белага сцяга, — Клаўдзія Дуж-Душэўскага?**

### Патомны паўстанец і будаўнік

Імя і падвойнае прозвішча выдаюць у Клаўдзіі Дуж-Душэўскім патомнага шляхціца. Прадзед па лініі маці з прозвішчам Урублеўскі ўдзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гадоў, дзед — у паўстанні 1863–1864 гадоў. Абодва загінулі. Усе яны былі прадстаўнікамі краёвай эліты, якая ў палітычным сэнсе вызнавала сябе палякамі, этнічна — ліцвінамі.

Лінія бацькі дала хлопцу схільнасць да тэхнічных навукаў ды будаўніцтва. З дзяцінства Клаўдзію добра ўдавалася чарчэнне, а пасля ўжо ён самастойна па просьбе бацькі рабіў праекты і каштарысы будынкаў, дарог, нават касцёла. Такім чынам, у хлопцы спалучылася старадаўняя патрыятычная лінія ды сучасная тэхнічная, стваральная.

### Выпадковая сустрэча ў кнігарні? Не думаю…

Далей Клаўдзій вучыўся ў рэальным вучылішчы ў Вільні. Ён ужо вызначыўся, што стане архітэктарам. Асабістыя планы юнака скарэктавала сустрэча ў адной з віленскіх кнігарняў у 1910 годзе. Словам ён зачапіўся з двума няблага апранутымі мужчынамі: адзін больш высокі і мажны, з вусамі, іншы — ніжэйшага росту ды з барадкай. Размова зайшла пра кнігі, гісторыю, але ў выніку перайшла да нацыянальнага пытання…

Менавіта пасля гэтай сустрэчы Дуж-Душэўскі зразумеў, што ён не паляк, а беларус, ды хутка далучыўся да нацыянальнага руху. Насамрэч, у кнігарні ён сустрэў Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага. Ці здараюцца падобныя выпадковасці?.. Не думаю.

### Архівы КДБ ЛітССР

Доўгі час, аж но да атрымання незалежнасці ў 1991-м, пытанне з'яўлення бел-чырвона-белага сцягу выглядала таямніча. Віравалі розныя версіі. Кропкі над "і" расставіла раскрыццё архіваў Літоўскай ССР на пачатку 1990-х.

Там, паводле даследчыка Уладзіміра Ляхоўскага, знайшліся ўласнаручныя сведчанні Дуж-Душэўскага, а менавіта ягоная аўтабіяграфія на літоўскай мове, датаваная 1934 годам, дзе і раскрываецца таямніца сцяга. У 1917 годзе яму «даводзілася зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга, адзін з іх быў прыняты, а менавіта — бел-чырвона-белы. Ад таго часу сцяг і лічыцца беларускім нацыянальным»,— піша сам Клаўдзій.

Ёсць думка, што першапачаткова сцяг быў замоўлены гуртком беларусаў-вайскоўцаў Петраградскага гарнізона. Душэўскі тады вучыўся там у Горным інстытуце ды паралельна займаўся беларускімі грамадскімі справамі. І тут пачалося: колеры сцягу прымаюць вайскоўцы-беларусы ад Пецярбурга да Адэсы (чапляюць стужкай на форму), яго вызнае Усебеларускі З'езд у Мінску, урэшце, 8 траўня 1918 сцяг афіцыйна зацвярджае адмысловая камісія БНР.

### Заможны і адукаваны

У БНР Душэўскі пэўны час быў сакратаром Ураду, пасля — прадстаўніком у краінах Балтыі. Калі ж стала канчаткова ясна, што да незалежнасці беларусам яшчэ далёка, Душэўскі вырашыў не гуляцца надалей ва «ўрады ў выгнанні», але абраў шлях творчасці і кар'еры.

У Коўна ён скончыў універсітэт з дыпломам інжынера-будаўніка. Напрыканцы 1920-х ён працаваў у Міністэрстве сувязі Літвы. Пазней — тэхнічным дырэктарам у акцыянерным таварыстве «Майстас». Паводле ягоных праектаў паўстаў цэлы шэраг фабрык, поштаў, нават тэатр і будынак радыё ў Коўна, Клайпедзе, Шаўляі, Паневежасе. Яго ж лічаць адным з заснавальнікам «ковенскага мадэрнізму» ў архітэктуры.

Разам з тым, беларуская справа — не чужая Душэўскаму. Максім Танк ва ўспамінах у 1938 годзе пісаў: «…К. Дуж-Душэўскі працуе ў Каўнасе галоўным архітэктарам. Матэрыяльна забяспечаны. Дзякуючы яго дапамозе і музей (Віленскі беларускі музей. — аўт.) сяк-так можа існаваць». Справа ў тым, што Душэўскі тым разам акурат даслаў у Вільню падручнікі, перакладзеныя ім на беларускую мову. Таксама ён быў і паліглотам: ведаў не толькі польскую, літоўскую і нямецкую, але і французскую ды партугальскую мовы.

### Арышты ды ўдача

Душэўскага цягам жыцця арыштоўвалі шмат разоў. Не вядома, ці мела да яго нейкія прэтэнзіі царская ўлада ды бальшавікі на першых этапах, затое ўжо ў 1921 годзе яго затрымалі палякі. Падставай стала канферэнцыя, дзе Душэўскі публічна крытыкаваў польска-савецкія дамоўленасці. Тры месяцы яму давялося правесці ў Лукішскай турме ў Вільні, пасля чаго — з'ехаць у Коўна.

З прыходам Саветаў у Літву Душэўскага арыштоўвалі за «актыўную нацыяналістычную контррэвалюцыйную дзейнасць, скіраваную супраць СССР» — нічога дзіўнага. Да абвінавачвання дадаўся яшчэ і шпіянаж на карысць Польшчы… Той не пагадзіўся з абвінавачваннямі, а тут ужо і новая вайна з новай уладай — гэтым разам нямецкай.

Адносіны з немцамі ў Душэўскага складваліся дзіўна. Ёсць сведчанні, маўляў, яму прапаноўвалі пасаду бургамістра Мінска, але Душэўскі адмовіўся. Ці тое ў выніку адмовы, ці сапраўды па фактах, немцы яго арыштавалі нібыта за перахоўванне яўрэяў. Але і гэтым разам лёс дапамог: заступіліся сябры па нацыянальным руху.

У 1946 годзе Душэўскага зноў арыштавалі Саветы яшчэ па перадваеннай справе, і… у чарговы раз выпусцілі. Але праз пяць гадоў 61-гадовага Душэўскага ўсё ж такі ўзяло ў свае абдымкі сталінскае «правасуддзе». За свае «старыя грахі» колішні дзеяч БНР атрымаў 25 гадоў. Выйшаў праз тры гады, паводле адмены выраку.

Памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі 25 лютага 1959 года, пахаваны ў Коўна. Шкада, што ягоную труну ў тыя змрочныя часы так ніхто і не прыкрыў бел-чырвона-белым сцягам.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1645

Падпісана да друку 1.10.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.